ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№3 (144)
сакавік 2023 год
CATHOLICNEWS.BY

# Віншаванне з дзесяцігоддзем абрання Папы Францішка ад Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў і ўсіх вернікаў Касцёла ў Беларусі

**У 10-ю гадавіну з дня абрання Папы Францішка на Пасад святога Пятра Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч ад імя епіскапату і вернікаў Касцёла ў нашай краіне дасылае Святому Айцу віншаванне.**

Яго Святасці Папу Францішку, Біскупу Рымскаму

Ваша Святасць!

З сыноўняй адданасцю ад імя Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў, а таксама ўсяго Каталіцкага Касцёла ў Беларусі прашу Вас прыняць шчырыя віншаванні з нагоды 10-й гадавіны выбару на Катэдру святога Апостала Пятра.

Вы ўпэўнена, рупліва і з вялікай адданасцю, здзяйсняючы служэнне "Векавечнаму Айцу, Якога праслаўляе неба і зямля" (Гімн Te Deum), сярод хваляванняў жыццёвага мора, ведзяце даручаны Вам Езусам Хрыстом, Найвышэйшым і Вечным Святаром, човен Пятра.

Гледзячы на Ваш прыклад веры, шматлікія свецкія і кансэкраваныя асобы, святары і біскупы імкнуцца наследаваць Вас у цвёрдасці веры, мужнасці і ўменні прымаць узважаныя рашэнні.

У цяперашнія цяжкія хвіліны жыццёвых выпрабаванняў Вы пераканаўча сведчыце людзям пра тое, што кожны, хто ўсклаў сваю надзею на Пана, не будзе "асаромлены навекі" (Гімн Te Deum). Увесь паўсюдны Касцёл бачыць, як Вы перажываеце праз падзелы, канфлікты і сутыкненні, якія адбываюцца па ўсім свеце, як моцна моліцеся, каб Бог сваёю магутнаю рукою ўмацаваў, "блаславіў і захаваў сваіх абраных" (Гімн Te Deum).

З асаблівым пачуццём Вы заклікаеце ўсіх людзей не ўпадаць у роспач, але спадзявацца на Божую ўсемагутнасць і міласэрнасць, нястомна маліцца пра адзінства Касцёла і ўсяго свету. Вы звяртаеце ўвагу на неабходнасць для кожнага хрысціяніна штодня здзяйсняць сваё пакліканне: з любоўю ставіцца да бліжніх, дапамагаць тым, хто мае патрэбу, асабліва тым, хто знаходзіцца на перыферыях нашага свету, і добрасумленна працаваць, прыгадваючы, што ў цэнтр мы павінны ставіць Хрыста, а не саміх сябе, тым самым выконваючы Яго словы: "Таксама вы, калі выканаеце ўсё загаданае вам, кажыце: „Мы нікчэмныя слугі, бо зрабілі тое, што павінны былі зрабіць"" (Лк 17, 10).

Сёння, калі мы бачым, як многія сучаснікі пачалі пераасэнсоўваць сваё жыццё і задумвацца пра духоўныя прычыны ўсяго, што адбываецца, голас Пятра нашых часоў з'яўляецца асабліва значным.

Гледзячы на Вас, усё больш людзей імкнецца прытрымлівацца традыцыйных духоўна-маральных каштоўнасцяў, усведамляць асаблівае значэнне ідэалаў дабра і міласэрнасці, справядлівасці і любові, разумеючы, што "Бог – наша прыстанішча і сіла, надзейная дапамога ў нядолі. Таму не будзем баяцца, калі б нават затрэслася зямля і горы ўпалі ў сярэдзіну мора" (Пс 46 (45), 2–3).



Ваша Святасць!

У гэты святочны дзень дазвольце павіншаваць Вас з такой важнай гадавінай і выказаць глыбокую ўдзячнасць за Ваш бацькоўскі клопат пра Паўсюдны Касцёл і Касцёл у Беларусі, за клопат пра кожнага чалавека, за неабыякавыя адносіны да патрэбаў вернікаў, кансэкраваных асобаў, святароў і біскупаў.

Дазвольце запэўніць Вас у нашай штодзённай малітве, а таксама ў малітве ў Вашых інтэнцыях.

Няхай Езус Хрыстус, Найвышэйшы і Вечны Святар, спасылае Вам неабходныя дары і ласкі, а Найсвяцейшая Дзева Марыя і святы Юзаф, заступнік Паўсюднага Касцёла, хай штодня абараняюць Вас!

Plurimos annos, Ваша Святасць!

*Мінск, 13 сакавіка 2023 г.*

**✠Алег Буткевіч –
Біскуп Віцебскі,
Старшыня Канферэнцыі
Каталіцкіх Біскупаў
у Беларусі**

*catholic.by*







**Так, толькі раз у год - 8 галасоў**
**Так, у Адвэнце і Вялікім посце - 62 галасы**
**Так, тры ці больш разоў на год - 26 галасоў**
**Не, не прымаю - 7 галасоў**
**А што такое рэкалекцыі? - 1 голас**
**Усяго 104 галасы**




## Відэаперадача для дзяцей

**24 лютага распачаўся новы хрысціянскі відэапраект для дзяцей на беларускай мове "Анёлкі з вясёлкі".**

Першы выпуск доўжыцца сорак хвілін і складаецца з сямі частак: "Чароўныя вандроўкі", "Крочым да Бога", "Музычны куфэрак", "Сакрэты раслін", "Смачная хвілінка", "Вышэй за неба", "Матуліны казкі".

"Мы запрашаем усіх у нашу каталіцкую нядзельную школу! Разам з вялікімі і маленькімі героямі вы навучыцеся спяваць вясёлыя песні, рабіць салодкія пачастункі, даведаецеся пра пісьменства, архітэктуру і нават пра космас!" – гаворыцца ў апісанні пад відэа.



*Каб паглядзець відэа, адсканюйце QR-код сваім смартфонам.*



## Голас паклікання

**"Радыё Марыя" выпусціла інтэрв'ю з біскупам Віцебскай дыяцэзіі Алегам Буткевічам у межах рубрыкі "Голас паклікання".**

У гэтай рубрыцы "Радыё Марыя" ўжо некалькі гадоў збірае вельмі розныя і цікавыя гісторыі паклікання. За гэты час сваімі асаблівымі гісторыямі падзялілася больш за сорак святароў, у тым ліку і біскупы.

Падчас гутаркі біскуп Алег Буткевіч распавёў пра сваё дзяцінства, хрысціянскае выхаванне, важную ролю ў якім адыгралі адносіны ў сям'і і прыклад бацькоў. Падзяліўся ўспамінамі пра адчуванне і распазнанне паклікання, расказаў пра свой шлях да яго. Распавёў ён таксама пра семінарыйныя гады, пра пасвячэнне, сваю святарскую службу і яе асаблівасці на ўсходзе Беларусі.

Запрашаем да прагляду!



*Каб паглядзець відэа, адсканюйце QR-код сваім смартфонам.*

# Папа: “У духоўнай барацьбе звяртайцеся да Божага слова”



**“Дабратворнае Божае слова дапамагае супрацьстаяць спакусам”, – нагадаў Святы Айцец перад малітвай Анёл Панскі, якая прайшла 26 лютага ў Ватыкане.**

У першую нядзелю Вялікага посту Пантыфік патлумачыў евангельскі ўрывак, у якім Езуса ў пустыні спакушае д’ябал (Мц 4, 1-11). Д’ябал – гэта той, хто падзяляе, – нагадаў Святы Айцец, запытаўшы: “Каго ж і якім чынам ён хоча падзяліць?”

Паводле Папы Францішка, д’ябал выходзіць на сцэну, каб парушыць адзінства паміж Айцом, Сынам і Святым Духам, каб аддаліць Езуса ад Яго місіі, якая заключаецца ў тым, каб зрабіць нас удзельнікамі Яго адзінства з Айцом (Ян 17,11). Ён хоча скарыстацца чалавечым станам галоднага Езуса, Які сорак дзён пасціўся ў пустыні (Мц 4,2). Ён імкнецца паралізаваць яго місію з дапамогай “трох моцных атрутаў”.

Першая атрута – прыхільнасць да рэчаў, імкненне задавальняць патрэбы. Д’ябал спрабуе спакусіць галоднага Езуса, каб Той ператварыў камяні ў хлеб.

Другая атрута – недавер. Д’ябал прапануе Езусу кінуцца ўніз са святыні, каб упэўніцца ў тым, што Айцец сапраўды любіць Яго.

Нарэшце, трэцяя атрута – улада. Спакуснік выпрабоўвае Езуса абяцаннем усіх валадарстваў свету. На думку Святога Айца, гэтыя тры небяспечныя спакусы шырока распаўсюджаныя таксама і сярод нас. Д’ябал выкарыстоўвае іх, каб аддаліць нас ад Бога, ад братоў і сясцёр, “каб прывесці нас да адзіноты і адчаю”.

Але Езус перамагае, “пазбягаючы спрэчак з д’яблам і адказваючы Словам Божым”. Ён гаворыць пра свабоду ад рэчаў, пра давер і служэнне Богу. “Такім чынам, Езус вучыць нас абараняць адзінства з Богам і людзьмі ад нападаў таго, хто імкнецца падзяліць нас”, – сказаў Папа, дадаючы, што нам вельмі патрэбнае адзінства.

Пантыфік прапанаваў вернікам паразважаць над пытаннем пра тое, якое месца ў іх жыцці займае Божае слова. Ён заахвоціў звяртацца да Евангелля ў духоўнай барацьбе са спакусамі або заганамі: “Давайце паспрабуем. Гэта дапаможа нам супрацьстаяць спакусам, таму што сярод галасоў, якія гучаць унутры нас, будзе гучаць дабратворнае Божае слова”, – параіў Пантыфік, запрашаючы памаліцца да Багародзіцы, каб Тая суправаджала нас у духоўнай барацьбе падчас Вялікага посту.



# Ватыканскі астраном: навука – штодзённы шлях з Богам

**“Навука – гэта не адкрыцці”, як і “рэлігія – гэта не фантастычная сустрэча з Богам”, а “штодзённае пілігрымаванне разам са Стваральнікам”, – падкрэсліў галоўны ватыканскі астраном брат Гай Кансальманьё.**

У Ватыканскай астранамічнай абсерваторыі ў Кастэль-Гандольфа працуе дванаццаць навукоўцаў, місія якіх заключаецца ў вывучэнні касмічнай прасторы, папулярызацыі навукі і дапамозе ў разуменні сусвету. “Часам здараецца, што мы адкрываем новыя нябесныя целы і прапануем назвы для іх”, – патлумачыў дырэктар гэтай установы.

Навуковец пракаментаваў нядаўняе наданне чатыром астэроідам назваў у гонар Папы Грыгорыя XIII – Уга Банкампаны, які жыў у XVI стагоддзі і правёў рэформу календара, а таксама трох езуітаў, святароў, звязаных з дзейнасцю Ватыканскай абсерваторыі: Ёхана Хагена, Біла Стогера і Роберта Януша. “Нас шмат – людзей, якія працуюць з тэлескопам і адкрываюць новыя нябесныя целы, таму некаторыя астэроіды носяць нашы імёны. Таксама і я маю адзін”, – сказаў астраном.

У абсерваторыі Святога Пасаду вывучаюцца розныя галіны астраноміі. Адзін з навукоўцаў, ксёндз Жан-Батыст Кіквая Элуа, займаецца даследаваннем метэарытаў, якія ўпалі ў розных частках Зямлі. “Ён вывучыў таксама напрамкі, з каторых яны ўвайшлі ў нашу атмасферу, і прыйшоў да высновы: напрамкі метэарытаў, што ўпалі ў Італіі, адрозніваюцца ад напрамкаў тых, якія ўпалі ў Тэхасе”, – расказаў брат Кансальманьё.

Езуіт прызнаўся, што, думаючы пра будучыя назвы для малых нябесных цел, якія можна прапанаваць на разгляд Міжнароднаму астранамічнаму саюзу, яму прыходзяць на думку зусім не імёны Пантыфікаў. “Калі будуць адкрытыя новыя метэарыты, я мару, каб яны былі названыя ў гонар чатырох законніц, якія працавалі ў Ватыканскай абсерваторыі сто гадоў таму”, – прызнаўся Кансальманьё.

Ватыканская астранамічная абсерваторыя з’яўляецца адной з найстаражытнейшых у свеце. Сваімі каранямі яна сягае ў XVI стагоддзе, калі падчас падрыхтоўкі да рэформы календара Грыгорый XIII распарадзіўся збудаваць у Апостальскім палацы вежу з найсучаснейшым на той час астранамічным абсталяваннем.

У 1930 годзе абсерваторыя была перанесена ў Кастэль-Гандольфа – невялікае мястэчка за 35 кіламетраў ад Рыма, дзе назіранням за небам не перашкаджае электрычнае святло вялікага горада. Яшчэ адзін ватыканскі астранамічны цэнтр з 1981 года дзейнічае ў ЗША: ён знаходзіцца ў горадзе Тусан у штаце Арызона. У 1993 годзе вялікі ватыканскі тэлескоп быў устаноўлены ў Міжнароднай абсерваторыі Маунт-Грэм у Арызоне – найлепшым астранамічным цэнтры ў Паўночнай Амерыцы.

# Манахіня стала генеральным сакратаром славенскага епіскапату

**Генеральны сакратарыят Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Славеніі ўзначаліць салезіянка Марыя Сіменц. Яна стала першай жанчынай на гэтай пасадзе.**

Пяцігадовы тэрмін паўнамоцтваў манахіні пачынаецца 17 красавіка. У 2018 годзе Сіменц абараніла доктарскую дысертацыю ў Папскім салезіянскім універсітэце ў Рыме. У цяперашні час яна кіруе правінцыяй манаскай Кангрэгацыі Дачок Марыі Успамогі Хрысціянаў (салезіянкі) у Славеніі і Харватыі.

Будучы генеральны сакратар мае вялікі вопыт кіраўніцтва ў Касцёле і свавёй манаскай супольнасці, – паведаміў славенскім СМІ старшыня епіскапату біскуп Андрэй Сае. Яна таксама свабодна валодае італьянскай мовай, што важна для міжнароднага касцельнага супрацоўніцтва. У цэлым уключэнне жанчын у склад біскупскай канферэнцыі “адпавядае духу Сінадальнага працэсу, які адбываецца ва ўсім свеце”, – адзначыў іерарх.

“Папа Францішак ужо шмат гадоў выступае за прызначэнне жанчын на розныя пасады ў Касцёле, каторыя не абавязкова павінны займаць святары”, – сказала сястра Марыя. Яна мяркуе, што яе прызначэнне сведчыць пра тое, што “біскупы прыслухаліся да Папы і ўвасобілі ў жыццё яго рэкамендацыі”.

Жанчыны на пасадзе генеральнага сакратара епіскапату – гэта рэдкасць. У Еўропе ёсць два такія выпадкі: генеральны сакратарыят Канферэнцыі Біскупаў Германіі з 2021 года ўзначальвае Беатэ Гілес, а генсекам Канферэнцыі Біскупаў Паўночных краін з 2009 года з’яўляецца Анна Мір’ям Кашнер з манаскай Кангрэгацыі сясцёр місіянерак Найкаштоўнейшай Крыві.



*Старонка падрыхтаваная па матэрыялах беларускай рэдакцыі Vatican News*

# Юстын – філосаф, апалагет, мучанік

**Апалагеты – хто гэта?**

Цяжкасці па лініі “Дзяржава – Касцёл”, якія хрысціянства перажывала ў першых стагоддзях свайго існавання, Айцы Касцёла вырашалі шляхам мірнага дыялогу. З аднаго боку, хрысціяне былі гатовыя прыняць мучаніцкую смерць нават тады, калі Рымская імперыя іх адкідвала і асуджала на смерць. З іншага ж, пераслед, які яны спазнавалі, не выклікаў у іх закрытасці ці гнеўнай абражанасці на існуючую рэчаіснасць. Яны не спрабавалі весці барацьбу з імперыяй, якая тады змагалася супраць іх, але вялі дыялог з яе прадстаўнікамі. Гэта з’ява цікавая, для многіх з нас невытлумачальная, але гэта – факт. Таму першыя стагоддзі існавання Касцёла характарызуюцца прысутнасцю багатай апалагетычнай літаратуры, г.зн. такой, у якой вызнаўцы Хрыста спрабавалі абараніць сваю рэлігію ад замаху з супрацьлеглага варожага боку – язычнікаў. У гэтых творах аўтары стараліся даць вычарпальны адказ на боязі і асцярогі, якія ўзнікалі ў рымскім грамадстве ў выніку з’яўлення на тэрыторыі Рымскай імперыі новай рэлігіі – хрысціянства.

**“Справядлівы” апалагет**

**Адным з найбольш вядомых апалагетаў, які не толькі пакінуў пасля сябе літаратурныя творы, але таксама вёў актыўную настаўніцкую дзейнасць, быў Юстын.**

Імя “Юстын” лацінскага паходжання, выводзіцца ад іншага лацінскага імені “Юст” (Iustus), што азначае “справядлівы, праведны”. Так у раннім хрысціянстве называлі чалавека, які жыў паводле Божага Закону. У Новым Запавеце “справядлівым” выразна названы апякун Езуса св. Юзаф, каторы не жадаў, каб цяжарная Марыя была зняслаўленая (пар. Мц 1, 19). Юстына можна назваць справядлівым не толькі праз яго імя, але і таму, што на шляху пошуку праўды ён быў паслядоўны, а дасягнуўшы яе, застаўся ёй верны аж да канца.

**Пошукі праўды**

Юстын нарадзіўся каля 100 г. у Палесціне, у рымскім паселішчы, якое было арганізавана на месцы старажытнага горада Сіхем, знішчанага пасля няўдалага антырымскага паўстання ў 60-70 гг. I ст. Ён паходзіў з адукаванай рымскай сям’і. Спачатку Юстын вучыўся ў сваім паселішчы, а потым адправіўся вывучаць філасофію ў Александрыю. Там увесь час існаваў і развіваўся цэлы шэраг розных філасофскіх школ: стоікі, кінікі, неаплатонскія, гнастычныя і іншыя філасофскія плыні вялі паміж сабой барацьбу за розумы людзей.

У сваім творы “Дыялог з габрэем Трыфанам” Юстын сведчыць, што ў пошуку праўды ён пераходзіў з адной філасофскай школы ў іншую, быў слухачом многіх вядомых у той час філасофаў. Аднак дасціпны юнак нідзе не знайшоў задавальнення сваёй прыроджанай цікаўнасці і жадання дасягнуць праўды. Бо прадстаўнік стаіцызму расчараваў яго маўчаннем аб прыродзе Бога. Перыпатэтык – настойлівым патрабаваннем неадкладнай аплаты за навучанне, паслядоўнік Піфагора – пастаўленай умовай вывучэння музыкі, астраноміі і геаметрыі, а прыхільнік Платона толькі часткова захапіў яго сваім навучаннем.

І ў рэшце рэшт Юстын распавядае, як сустрэў аднаго простага чалавека сталага ўзросту на беразе мора непадалёк ад Александрыі. Ён і пазнаёміў яго з “сапраўднай філасофіяй”. Яна, паводле гэтага невядомага старца, выйшла з Палесціны і паволі здабывае розумы і сэрцы людзей па ўсім свеце. Гэта, вядома, было хрысціянства. Менавіта тады Юстын пазнаёміўся з хрысціянскім вучэннем, якое сталася для яго жыццёвай мудрасцю, глыбокім разуменнем натуры чалавека і Бога. “У душы ж маёй у гэты момант, – прызнаецца Юстын, – разгарэўся агонь, і мяне ахапіла любоў да гэтых прарокаў і людзей, сяброў Хрыста”. Аднак гэтая “сапраўдная філасофія” патрабавала ад яго навяртання і перамены жыцця. Такім чынам, ён стаў хрысціянінам: прыняў хрост і моцна звязаў сваё жыццё са справай будавання Касцёла. Спачатку Юстын вёў сваю дзейнасць у старажытным Эфесе (паўвостраў Малая Азія), дзе адкрыў сваю ўласную філасофскую школу, у якой пераказваў слухачам здабытыя веды. Потым жа яго неспакойная душа зацягнула яго ў Рым, дзе ён далей працягваў сваю дзейнасць.

**Праўда, выказаная ў творчасці**

Праўдападобна, падчас свайго знаходжання ў Рыме Юстын напісаў два творы пад той самай назвай – “Апалогія”. Першая з іх адрасавана імператару, а другая – сенату ці сходу старэйшын. Юстын у гэтых творах спрабаваў растлумачыць простую праўду, да якой ніяк не маглі дайсці язычнікі: што хрысціяне – гэта не атэісты, але тыя, хто адкрыў сапраўднага Бога.

**Аўтар спрабаваў пераканаць тых, хто трымаў уладу ў Рымскай імперыі, што нельга адкідваць і пераследаваць хрысціян толькі за тое, што яны вызнаюць і жывуць вучэннем Хрыста.**

Ён спрабаваў паказаць тую вялікую карысць, якую можа здабыць імперыя, калі дазволіць існаваць і развівацца гэтай сапраўднай рэлігіі.

Адна з найважнейшых рэчаў, якая характарызуе спосаб мыслення і дзеяння Юстына, – гэта перакананне, што тое Божае Слова (пагрэцку – Логас), якое ён для сябе адкрыў у Езусе Хрысце, прысутнае ва ўсім свеце. Кожны чалавек, нават той, які не вызнае хрысціянскую веру, калі толькі захавае ў сабе прагненне праўды і пазнання Логасу, можа наблізіцца да хрысціянства. Адсюль выразная схільнасць Юстына да дыялогу і адкрытасці. Спроба ж зразумення апанентаў сталася асноўнай рысай дзейнасці аўтара “Апалогій”.

**Фінал зямнога жыцця, але не вучэння**

Юстын, знаходзячыся ў Рыме, моцна пасварыўся з філасофам-кінікам Крэсцэнтам, з якім праводзіў публічную палеміку, г.зн. слоўную барацьбу, “бітву” поглядаў. Філасофію Крэсцэнта наш аўтар смела і выразна называў “несапраўднай”, чым, вядома, моцна яго абразіў. Гэты канфлікт паміж двума філасофамі прывёў да таго, што Юстын быў абвінавачаны гэтым жа Крэсцэнтам перад дзяржаўнай уладай, што ён хрысціянін. Згодна з існуючымі тады законамі, быў праведзены судовы працэс супраць Юстына і іншых яго паплечнікаў, каторыя, як і ён, вызнавалі хрысціянскае вучэнне. Насуперак таму, пра што Юстын прасіў у сваіх “Апалогіях”, ён быў асуджаны на смерць, аднак не праз павешанне ці спальванне на вогнішчы… Будучы рымскім грамадзянінам, Юстын, як і раней Апостал Павел, быў абезгалоўлены. Сталася гэта ў 165 г.



Мы ўшаноўваем Юстына як філасофа, апалагета і хрысціянскага мучаніка. Як і ў выпадку іншых мучанікаў, яго сведчанне і вучэнне перажыло яго самога, не памерла, працягвае жыць. А памяць Касцёла пра яго асобу, жыццё і дзейнасць з’яўляецца сведчаннем пераканання, што свет, нават калі ён нам варожы, не з’яўляецца нашым ворагам. Яго проста трэба пераканаць у каштоўнасці хрысціянства і такім чынам наблізіць да Логасу.

*Кс. Павел Эйсмант*

# “Weekend з Марыяй”,

## *альбо Як моладзь з усёй Беларусі адпачывае і духоўна ўзрастае ў маленькай вёсцы*

“Застацца сабой у адносінах” – пад такой назвай з 3 па 5 сакавіка ў вёсцы Удзела Глыбоцкага дэканата прайшоў чарговы “Weekend з Марыяй”. Маладыя людзі з розных куточкаў Беларусі сабраліся ў мястэчку Беззаганнай, каб прысвяціць свой вольны час Маці Божай, супольна памаліцца і абмеркаваць пытанні, каторыя іх хвалююць.

Як адзначыў духоўны кіраўнік моладзевых спатканняў у Удзеле а. Віктар Мялешка OFMConv, ініцыятарам сустрэч стала сама моладзь. Першая такая сустрэча пад апекай Марыі ўпершыню прайшла ў кастрычніку 2022 года ў першыя пятніцу, суботу і нядзелю месяца. Гэта акалічнасць і падштурхнула да з’яўлення назвы “Weekend (ўік-энд) з Марыяй”.

Кожная такая сустрэча мае сваю тэматыку, якую прапануе моладзь. У спатканнях прымаюць удзел святары, што дапамагаюць больш глыбока яе раскрыць.

Госцем чарговага спаткання на тэму “Застацца сабой у адносінах” стаў ксёндз Яўген Шымановіч. “Як захаваць чысціню сэрца і непаддацца негатыўнаму ўплыву іншых? Як распазнаць сапраўднае каханне і што рабіць, калі няма ўзаемнасці?” – вось толькі некаторыя пытанні, якія закрануў святар падчас канферэнцый. Актыўны ўдзел маладых людзей у абмеркаванні праблемы сведчыць пра важнасць і актуальнасць выбранай тэмы.

У праграме ўік-энду, акрамя канферэнцый, быў час на рэкрэацыю – адпачынак у залежнасці ад інтарэсаў, а таксама на пустыню – моманты асабістай цішыні. У вольны час маладыя людзі мелі магчымасць глыбей абмеркаваць тэму сустрэчы, падзяліцца ўласным досведам, скарыстацца сакрамантам споведзі.

Значную частку спаткання займала малітва: святая Імша, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, вяночак да Божай Міласэрнасці, Нешпары.

Кранальным момантам для многіх стала вячэрняя адарацыя праслаўлення з малітвай аздараўлення душы і цела, якую правёў ксёндз-экзарцыст Мікалай Ціхановіч.

У апошні дзень сустрэчы аніматары правялі рэфлексію ўік-энду. У групах маладыя людзі дзяліліся ўражаннем пра тое, што для іх было найбольш важным і цікавым, уносілі прапановы па арганізацыі наступных імпрэзаў.

Кульмінацыяй дня стала Эўхарыстыя. У гамілії а. Віктар Мялешка OFMConv, разважаючы над тэмай сустрэчы, падкрэсліў, што важна заставацца сабой не толькі ў адносінах з іншымі людзьмі, але і ў адносінах з Богам. “Мы павінны прыносіць Пану Богу ўсё, што ляжыць у нас на сэрцы, быць шчырымі і адкрытымі, каб Хрыстус выслухаў нашыя просьбы і малітвы. Прыкладам такіх адносін з Богам для нас з’яўляецца Марыя” – падкрэсліў святар.

Падчас святой Імшы трое маладых людзей прысвяцілі сябе Беззаганнай, каб як мага больш наследаваць Марыю і быць Яе рыцарамі.

Напрыканцы моладзь выказала словы ўдзячнасці айцу Віктару за духоўную апеку і ўсім айцам-францішканам за арганізацыю сустрэчы. Асаблівыя словы падзякі прагучалі ў адрас парафіянаў, якія прынялі ўдзельнікаў уік-энду на начлег і прычыніліся да арганізацыі харчавання.

*Жанна Закрэўская*



# Гісторыя парафіі ў Дзісне і яе гістарычны шлях

*Памятныя даты Дзісны:*
- *440 гадоў каталіцкай парафіі,*
- *250 гадоў касцёлу Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.*

**У 1558-1583 гадах наша дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае – знаходзілася ў стане вайны з Маскоўскім княствам. Пагроза паразы ў гэтай вайне прымусіла кіроўныя колы ВКЛ пайсці на заключэнне Люблінскай вуніі 1569 года, згодна з якой Вялікае Княства Літоўскае аб'ядноўвалася з Польскім Каралеўствам у адну дзяржаву – Рэч Паспалітую.**

### Кароль і Вялікі князь Стэфан Баторый

У 1576 годзе каралём Рэчы Паспалітай быў абраны Стэфан Баторый, які падтрымліваў каталіцкую царкву і езуітаў. Пасля заваявання ў 1563 годзе Полацка Іванам Жахлівым усе ваяводскія ўлады пераехалі з Полацка ў Дзісну, якая на некалькі гадоў стала цэнтрам Полацкага ваяводства. Стэфан Баторый некалькі разоў бываў у Дзісне, дзе ў 1579 годзе сабраў 50-тысячнае войска для адваёвы Полацка ад Івана Жахлівага, паабяцаў у выпадку перамогі закласці там езуіцкі калегіум. 2 ліпеня 1580 года адбыліся яго закладзіны. Стэфан Баторый выдаў загад, па ўмовах якога ў праваслаўных жыхароў Полацка адымаліся ўсе храмы і манастыры, за выключэннем Сафійскага сабору.

Таксама не забыўся Баторый на сваю рэзідэнцыю ў Дзісне. У 1583 годзе ім быў тут закладзены першы рымакаталіцкі касцёл і перададзены пад апеку полацкім езуітам для ўтварэння самастойнай парафіі. У актах Віленскага біскупства 1583 год прыняты як дата заснавання каралём Стэфанам Баторыем першага рыма-каталіцкага касцёла ў Дзісне, а таксама рашэнне пра яго матэрыяльнае забеспячэнне. Касцёл быў пабудаваны з дрэва, быў двухвежавым і насіў назву "Батаровы".

Колькасць каталіцкіх вернікаў у парафіі стала павялічвацца. Жыццядзейнасць каталіцтва і праваслаўя залежала ад таго, як развіваліся ўзаемаадносіны паміж вернікамі і дзяржаўнай уладай. Калі канфесію падтрымлівала дзяржаўная ўлада, то гэта адбівалася на яе духоўным росце і матэрыяльным дабрабыце, і наадварот. Дзісна ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, дзе дзяржаўнай рэлігіяй з'яўлялася каталіцтва.

У 1630 годзе памешчык з Полацкага ваяводства Крыштаф Малькевіч-Хелхоўскі запрасіў у Дзісну ксяндзоўфранцішканаў, падараваўшы ім каля Дзвіны маёнтак Клімаўшчызна. І адразу пабудаваў для іх манастыр з касцёлам і званіцай.

**У 1773 годзе на месцы драўлянага францішкане ўзвялі новы касцёл у гонар Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Гэта цагляны будынак у стылі віленскага барока памерам 35 на 16 метраў, з моцнымі паўтараметровымі мурамі. Галоўны яго алтар асвечаны ў імя Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, бакавыя – у імя святога Антонія, святога Юзафа, святой Тэклі і святога Роха. Колькасць каталіцкіх вернікаў у Дзісненскай парафіі стала павялічвацца.

### Уніяцтва ў Дзісне

9 кастрычніка 1596 года на Брэсцкім царкоўным саборы са згоды кіраўніцтва Вялікага Княства Літоўскага праваслаўныя епіскапы прынялі новую веру, якая аб'ядноўвала праваслаўе і каталіцтва. Гэта вера стала называцца ўніяцкай. Уніяцкая царква прызнавала вяршэнства Папы Рымскага, а не Патрыярха Маскоўскага, захоўвала дзеючыя грэцкія абрады, а царкоўная служба павінна была весціся на родным мове вернікаў. Новая хрысціянская канфесія даволі хутка развівалася за кошт простых людзей. У 17 стагоддзі ў Дзісне была пабудаваная ўніяцкая царква святога Міхаіла. Уніятаў называлі грэка-каталікамі ў адрозненне ад рыма-каталікаў. Але багатая і сярэдняя частка шляхты ў асноўным была рымакаталіцкай, таму што лічыла рыма-каталіцкую больш прэстыжнай верай.

Да канца 18-га стагоддзя хрысціянскае насельніцтва Дзісны заставалася шматканфесійным. Сярод яго былі рыма-каталікі, грэка-каталікі (уніяты), праваслаўныя і невялікая колькасць стараверaў. Самай вялікай па колькасці была іудзейская канфесія. Кожная з іх, за выключэннем стараверaў, мела свае святыні і свае могілкі.

### Перыяд Расійскай імперыі

Пасля далучэння Дзісны ў 1793 годзе да Расійскай імперыі дзяржаўнай рэлігіяй стала праваслаўе. Гэта далучэнне і тыя змены, якія адбываліся ў грамадстве і Каталіцкім Касцёле, выклікалі пратэсты яго вернікаў. Адносіны паміж трыма хрысціянскімі канфесіямі – каталіцкай, праваслаўнай і ўніяцкай – істотна ўскладніліся. Адной з прычын, што прыводзіла да такога становішча, былі пераходы вернікаў з адной канфесіі ў іншую. Даволі часта адбываліся пераходы з уніяцтва ў каталіцкае веравызнанне. Улады прымалі меры, якія забаранялі каталіцкаму духавенству далучаць уніятаў да каталіцтва, а пераход уніятаў у праваслаўе ўсяляк заахвочваўся.

Каталіцкае духавенства і манаства прыняло актыўны ўдзел у паўстанні супраць Расійскай улады ў 1831 годзе. 24 красавіка 1831 года адна група паўстанцаў выйшла з Лужкоў для ўзяцця Дзісны. У руках паўстанцаў горад знаходзіўся на працягу трох сутак. Толькі рускія войскі пад камандаваннем палкоўніка Макарава выбілі паўстанцаў з Дзісны.

Пасля задушэння паўстання ва ўсіх заходніх губернях каталіцтва падвяргалася ціску. Гэты лёс не мінуў і дзісненскія касцёлы. Узведзены 250 гадоў назад Стэфанам Баторыем парафіяльны касцёл зачынілі і перабудавалі ў праваслаўную царкву ў імя святога Мікалая. Уніяцкую царкву таксама зачынілі і да 1839 года ўсіх апошніх уніятаў прымусова перавялі ў праваслаўе. І францішканскі манастыр разам з касцёлам быў зачынены, манахаў вывезлі, а непасрэдна касцёл у 1839 годзе вярнулі вернікам як парафіяльны. Зноў сталі адбывацца набажэнствы ў касцёле, ладзіўся штогадовы трохдзённы фэст з 24 па 26 верасня. Працэсія на свята Божага Цела, як і раней, збірала вялікую колькасць вернікаў, хаця галоўным кірункам канфесійнай палітыкі дзяржаўнай улады стала захаванне і пашырэнне панавання праваслаўнай царквы.

### Пачаткі беларусізацыі ў Касцёле

У пачатку 20-га стагоддзя сярод каталіцкага духавенства зараджаўся рух за беларусізацыю касцёла. 21 ліпеня 1917 года ў дзісненскім касцёле падчас візітацыі біскупа казанне на беларускай мове прамовіў ксёндз Адам Станкевіч – будучы вядомы рэлігійны дзеяч. Перад рэвалюцыяй 1917 года ў Дзісне адбылася вялікая падзея – візіт біскупа Віленскага Эдварда Ропа, прыхільніка выкладання закона Божага на роднай мове вучняў. На сустрэчу з ім выйшла ўсё насельніцтва горада. Дзісна была ў той час цэнтрам дэканата, таму сабралася шмат ксяндзоў і людзей з прылеглай мясцовасці. Біскуп меў многа спраў: была магчымасць пасля многіх гадоў правядзення сакраманту бежмавання, чым скарысталіся вернікі. Візіт працягваўся ўвесь тыдзень.

Беларусізацыя касцёла закончылася ў 1921 годзе, калі Дзісна адышла да Польшчы. Асноўным зместам польскай дзяржаўнай і рэлігійнай палітыкі на "ўсходніх крэсах" з'яўлялася ўцягванне беларускага насельніцтва ў сферу ўплыву Каталіцкага Касцёла і польскай дзяржавы.


Касцёл у Дзісне, 20-я гады XX стагоддзя.
*Фота з Літоўскага Дзяржаўнага Гістарычнага Архіва.*

### У складзе Польскай Рэспублікі

Да 1924 года Дзісна была цэнтрам дэканата, які налічваў 24 парафіі. З 1925 года павятовыя ўлады і дэканат з Дзісны перавялі ў Глыбокае. У новых межах дэканат меў 14 парафій.

У пераломны перыяд Першай сусветнай вайны і падчас уваходжання Дзісны ў склад Польшчы з 1921 года выконвалі абавязкі пробашчаў Дзісненскай парафіі ксёндз-дэкан Ежы Мачульскі, ксёндз-дэкан Эдвард Дыбель, ксяндзы Вінцэнты Прашкун, Антоні Зінкевіч, Вінцэнты Габшэвіч, Людвік Балабан, Баляслаў Лазоўскі і Ян Рамейка да 1938 года. Навучалі рэлігіі ў гімназіі ксяндзы Чэслаў Дабулевіч, Сільвестр Малахоўскі, Антоні Забельскі і Ян Грабоўскі.

У 20-х гадах XX стагоддзя пачалася актывізацыя рэлігійнай каталіцкай грамадскасці. Адбываліся пешыя пілігрымкі на парафіяльныя ўрачыстасці ў суседнія ці больш далёкія парафіі. Такую пілігрымку з Лужок да Дзісны на ўрачыстасць святой Тэклі 23 верасня 1929 года правёў ксёндз Стэфан Астаневіч разам са сваімі вернікамі. А 21-й гадзіне яны выйшлі з Лужкоў і а 10-й гадзіне наступнага дня былі каля моста на Дзісёнцы. Тут іх віталі ксёндз-пробашч Балабан і ксёндз Калінскі. Вярталіся ў Лужкі праз дзень. На развітанне пілігрымаў праводзіў на мосце аркестр гімназіі.

Праз два гады ксёндз Астаневіч суправаджаў сваіх парафіян у Празарокі на парафіяльнае свята Маці Божай Анёльскай. Пілігрымы па дарозе адпачывалі ў Чарневічах, гасцілі ў ксяндза-пробашча Яна Змітровіча.

У 1938 годзе пачалася рэарганізацыя Віленскай дыяцэзіі. Манахі, якія мелі свае ўладанні на ўсходніх землях, маглі вярнуцца дадому і адначасова займацца душпастырскай дзейнасцю. На гэтай аснове дзісненскі касцёл таксама быў перададзены ранейшым уладальнікам – францішканам. У Дзісну прыехалі пробашч Валерыян Міхно і яго намеснік Брунок Маслёна. Пачалася праца па адраджэнні манастыра. Праз некаторы час пасля 17 верасня 1939 года савецкія ўлады арыштавалі іх і вывезлі. Але касцёл працягваў існаваць, душпастырскую дзейнасць па сумяшчэнні вёў Юзэф Кавальчык з суседняга Мікалаёва.

⇒


**Нямецкія вайскоўцы каля спаленага касцёла, 1941 год.**
*Фота са збораў Кастуся Шыталя.*

⇐

### Перыяд II Сусветнай вайны і савецкі час

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны 28 чэрвеня 1941 года падчас нямецкай бамбардзіроўкі Дзісны загарэўся дах касцёла. Агнём былі знішчаныя ўнутранае ўбранне, плябанія і званіца. Немцы забралі званы і дазволілі абсталяваць новае месца для правядзення набажэнства. З прыходам нямецкай улады ў Дзісну зноў прыехалі францішкане. Было іх трое – два ксяндзы і законнік. Па ўспамінах сучаснікаў ксёндз Станіслаў Крульскі быў прыязным чалавекам, спачуваў простым людзям. Другі ксёндз нагадваў тыпам капелана, быў аскетычны. Пад іх кіраўніцтвам абсталявалі памяшканне для правядзення набажэнства, дзе яны на працягу трох гадоў праводзілі душпастырскую дзейнасць.

У ліпені 1944 года пры вызваленні Дзісны ксёндз Крульскі знаходзіўся ў Цэнтральнай Польшчы, другі ксёндз застаўся ў Дзісне, і па чутках разам з законнікам быў забіты.

У гэты час будынак касцёла зноў моцна пацярпеў ад гарматных абстрэлаў. Як дзіва ўспамінаюць старажылы той факт, што, хоць муры касцёла былі паўсюль пашкоджаныя снарадамі і аскепкамі, усе тры крыжы над касцёлам і скульптурная выява Панны Марыі на галоўным фасадзе засталіся не пашкоджанымі.

Пасля вайны пастаяннага ксяндза ў Дзісне не было. Душпастырскую дзейнасць у прыстасаваным пад касцёл памяшканні праводзіў па сумяшчэнні ксёндз Юзэф Зералка з Мікалаёва, які быў у 1947 годзе арыштаваны і вывезены.

Жаданне каталіцкай супольнасці адрамантаваць будынак касцёла знайшло супраціў з боку мясцовай улады. Больш за тое, у 1951 годзе ўлада забараніла праводзіць набажэнствы і ў прыстасаваным пад касцёл памяшканні, аддаўшы яго пад жыллё. Шматлікая Дзісненская парафія, якая мела 370-гадовую гісторыю, перастала існаваць.

**У 1958 годзе мясцовыя ўлады вырашылі зусім знішчыць будынак касцёла, дзе на той час былі гарадская сметніца і міліцэйскі цір.**

У горад прыбылі армейскія падрыўнікі, пачаліся падрыўныя работы. 185-гадовыя муры паўтараметровай таўшчыні выдужалі, атрымалася знішчыць толькі фасад касцёла з магіламі манахаў у падполлі. Ад гэтых выбухаў у найбліжэйшых дамах з акон павылятала шкло і патрэскаліся сцены цагляных дамоў. Праз агульнае абурэнне жыхароў падрыўныя работы больш не сталі працягваць. Ад будынка касцёла засталіся тры муры. У такім паўразбураным выглядзе святыня прастаяла 48 гадоў.

### Перыяд суверэннай Беларусі

У 1991 годзе каталіцкая супольнасць Дзісны атрымала дазвол на адраджэнне парафіі. Нягледзячы на шматгадовыя атэістычныя намаганні, пачала павялічвацца колькасць вернікаў, што сведчыла пра захаванне ў народзе рэлігійных традыцый. Шмат людзей перасталі хаваць свае перакананні, актыўна ўключыліся ў жыццё рэлігійнай арганізацыі. Першы час вернікі маліліся ля муроў свайго касцёла і ў прыватным доме, затым арандавалі дзяржаўнае памяшканне, прывозілі ксяндза з Празарок. Адначасова пачалі збіраць сродкі на адбудову сваёй святыні. У хуткім часе аднавілі закрыстыю касцёла, у якой абсталявалі капліцу, дзе цяпер адбываюцца набажэнствы.

У розныя часы на працягу апошніх 32-х гадоў духоўную працу сярод вернікаў выконвалі ксяндзы Роберт Крывіцкі, Казімір Акушка з Празарок, Уладзіслаў Пятрайціс, Алег Буткевіч, Павел Самсонаў з Мёраў. З 2003 года пастаяннымі пробашчамі былі ксяндзы Генадзь Добрук, Аляксандр Грыцкевіч, Вячаслаў Адамовіч. З 2019 года пастаяннага ксяндза ў парафіі няма. Службы ў парафіі праводзіў па сумяшчэнні ксёндз Андрэй Кулік з Мёраў, цяпер – ксёндз Іван Кароткін з Наваполацка.

У маі 2007 года пачаліся рэстаўрацыйныя работы ў касцёле ў Дзісне, былі адноўлены фасад, сцены, дах, вокны. На фасадзе ўсталяваны тры крыжы, асвечаныя Віцебскім біскупам Уладзіславам Блінам. Пачалося ўнутранае аздабленне.

Намаганні па адбудове касцёла падтрымліваюць не толькі вернікі, але і тыя, каму дарагая памяць нашых продкаў, каму неабыякавы лёс архітэктурных помнікаў гісторыі і культуры. Усе жывуць надзеяй, што агульнымі намаганнямі мы ўваскрасім наш касцёл-пакутнік, дзе зноў завіруе сапраўднае хрысціянскае жыццё, жыццё паводле запаветаў Божых, жыццё з пашанаю да сапраўдных каштоўнасцей чалавека.

Гісторыя дзісненскага францішканскага касцёла цесна звязаная з гісторыяй каталіцтва ў Дзісне. Шмат чаго могуць расказаць муры старадаўняга касцёла, над якімі праляцелі стагоддзі, пакідаючы свае адмеціны, часам вельмі суровыя знакі суровых часоў.

**Літаратура**

1. А.П. Сапуноў. "Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерніі". – Віцебск, 1896.
2. В.В. Грыгор'ева, У.М. Завальнюк, У.І. Навіцкі, А.М. Філатава. "Канфесіі на Беларусі" (18-20 стст.). – Мінск, 1998.
3. Памяць. Міёрскі раён. Гісторыка-дакументальная хроніка. – Мінск, 1998.
4. Eugeniusz Zabiella "Dzisna. Bastion nad Dźwiną"/ – Bydgoszcz, 1998.

*Пётр Уладзіміравіч Баговіч,*
*краязнаўца*

# Рапяхі. Каменны крыж пры дарозе і магілы Дамейкаў

**Яшчэ калі я быў вучнем школы, то не адзін раз чуў ад старых людзей, што ў Докшыцкім раёне, насупраць могілак вёскі Рапяхі, на ўскрайку дарогі Параф'янава – Сітцы, стаяў каменны крыж. Гэты крыж, па словах мясцовых жыхароў, павалілі і закапалі пад дарожнае палатно каля 1970 года, калі пашыралі дарогу. У часы атэістычнай камуністычнай улады не было каму ратаваць крыж.**



Каменны крыж каля могілак вёскі Рапяхі. *Фота: Ежы (Юры) Дулевіч, каля 1928 года.*

Як і пра многія старадаўнія аб'екты, паходжанне каторых дакладна не вядомае, пра рапяхоўскі крыж узнікалі розныя легенды.

"Наваколлі Параф'янава, дзе мы выйшлі, ляжаць на шляху паходу Баторыя, і захаваўся не адзін успамін яшчэ з тых часоў – ці то ў назвах мясцовасцяў, ці ў помніках. Паміж іншым, узносіцца вялікі крыж, з аднаго кавалка каменю часаны, пра які кажуць, што войска Баторыя паставіла яго на магіле", – піша невядомы аўтар, які наведаў нашыя мясціны, у газеце "Kurjer Poznański" ад 23 верасня 1931 года.

Я ніколі не спадзяваўся, што ўдасца знайсці фотаздымак гэтага крыжа. Хто яго мог фатаграфаваць у сельскай мясцовасці? Аказалася, што яго сфатаграфаваў каля 1928 года Ежы (Юры) Дулевіч. Здымак захаваўся і нядаўна быў выстаўлены на продаж у адным з варшаўскіх антыкварыятаў. Мне ўдалося набыць гэтае фота. На тыльным баку здымка змешчаныя два подпісы алоўкам: "Сітцы – Параф'янава. Каменны крыж на магіле генерала" і "Магіла генерала арміі Напалеона з 1812 г. Дзісненскі павет".

Насамрэч, ніякія жаўнеры Баторыя ці Напалеона не маюць дачынення да ўсталявання гэтага крыжа. Народная свядомасць мае практыку прывязвання старых аб'ектаў да пазнейшых падзей. З гэтай прычыны, напрыклад, крывіцкія курганы ў Паазер'і паўсюдна называюць "шведскімі" або "французскімі" магіламі. Крыж каля Рапяхоў – гэта адзін з тых сакральных аб'ектаў, якія ставілі каля сваіх вёсак і могілак нашыя продкі. Сярод іншых каменных крыжоў, што распаўсюджаныя ў Паазер'і, гэты вылучаецца вялікай акуратнасцю і ўвагай да формы. Хтосьці мусіў вельмі старанна папрацаваць над ім.

Цяпер крыж ляжыць глыбока пад дарожным палатном. Можа, рана ці позна падчас нейкай рэканструкцыі дарогі яго ўдасца адкапаць і зноў паставіць на месца, каб ён нагадваў людзям пра Хрыста і служыў прыкладам майстэрства нашых продкаў у працы з каменем. А пакуль што можна скарыстаць знойдзены ў Варшаве фотаздымак і паставіць недзе непадалёку стэнд, змясціўшы на ім выяву крыжа.

Чый гэта быў крыж? У 1596 годзе праваслаўныя біскупы ў Вялікім Княстве Літоўскім прызналі вяршэнства над сабой Апостальскай Сталіцы. Была ўтвораная грэка-каталіцкая, або уніяцкая, царква, якая захоўвала ўсходні абрад, літургію і каляндар, але была ў еднасці з паўсюдным Касцёлам. Таму невядома, ці гэты крыж паставілі вернікі, якія маліліся ў касцёле ў Параф'янаве, ці тыя, якія маліліся ў царкве ў Сітцах. Але можна ўпэўнена сказаць, што яго ставілі вернікі адзінага Касцёла.

На могілках у Рапяхах ёсць яшчэ адзін гістарычны аб'ект, каторы, на шчасце, захаваўся. Гэта магілы прадстаўнікоў роду Дамейкаў, якія з 1798 года валодалі маёнткам Сітцы. Там пахаваны Аляксандр Дамейка (1804-1878) і яго жонка Зоф'я з дому Брахоцкіх (1814-1899), Тадэвуш Дамейка (1762-1838).

На помніку Тадэвушу Дамейку ёсць надпіс у памяць пра ягоную жонку Схаластыку, якая памёрла 9 красавіка 1827 года і, як кажа надпіс, "пахавана ў склепавых катакомбах сітцаўскай святыні". У час смерці Схаластыкі Дамейка царква ў Сітцах яшчэ была грэка-каталіцкай. Таму нічога не перашкаджала пахаваць яе пад царквой. Праз дванаццаць гадоў, у 1839 годзе, Унія была скасаваная пад ціскам царскага ўраду, а грэка-католікаў далучылі да праваслаўнай царквы.

Самым вядомым чалавекам з роду Дамейкаў быў Ігнат Дамейка (1802-1889). У юнацтве яго арыштоўвалі царскія ўлады за ўдзел у дзейнасці таемнага "Таварыства Філаматаў" ("аматараў навукі"), якое мела на мэце самаадукацыю і практыкаванні ў літаратуры. У 1830-1831 гг. Ігнат Дамейка падтрымаў паўстанне, і пасля яго разгрому быў вымушаны эміграваць. У Чылі, у Паўднёвай Амерыцы, ён стаў выдатным навукоўцам і грамадскім дзеячам, рэктарам універсітэта ў Сант'яга. Быў вернікам, штодня ўдзельнічаў у святой Імшы. Адзін з яго сыноў, Герман, стаў святаром.

Пахаваны ў Рапяхах Тадэвуш Дамейка быў дзядзькам Ігната. Брат Тадэвуша, Леон Дамейка, у 1822 годзе пабудаваў касцёл у Дзеркаўшчыне. Аляксандр Дамейка даводзіўся Ігнату стрыечным братам і перапісваўся з ім. Але цалкам верагодна, што Ігнат Дамейка меў значна бліжэйшае дачыненне да нашага рэгіёна. Вядома, што ягоная сям'я тут пастаянна не жыла, яны мелі маёнтак у Мядзвядцы ў Карэліцкім раёне. У той жа час польскі даследчык генеалогіі Адам Банецкі, аўтар 16-томнага "Польскага Гербоўніка", які друкаваўся ў 1899-1909 гг., пісаў, што Ігнат быў ахрышчаны ў 1802 годзе ў Параф'янаве. Аўтар, відаць, карыстаўся нейкімі крыніцамі, якія сёння нам недаступныя. Калі Банецкі не памыляецца, то не выключана, што сям'я Дамейкаў у час яго нараджэння знаходзілася ў сваякоў у Сітцах або з нейкай іншай прычыны было вырашана правесці хрост у Параф'янаве.

Калі Ігната Дамейку сапраўды ахрысцілі ў Параф'янаве, то хрост адбываўся ў драўляным касцёле, пабудаваным у 1675 годзе, які падчас будаўніцтва новага ў 1899-1908 гг. адсунулі, перанеслі ўбок, а канчаткова разабралі ў 20-я гады XX стагоддзя. Дарэчы, у камітэт будаўніцтва новага касцёла ўваходзіў Вацлаў Дамейка, які быў унукам Тадэвуша і пляменнікам Аляксандра, а ўладальнікам Сітцаў стаў, бо Аляксандр не меў дзяцей. Маючы вялікія даходы з маёнтка, Вацлаў быў адным з найбольшых ахвярадаўцаў пры будаўніцтве параф'янаўскага касцёла. У 20-я гады Дамейка ахвяраваў зямельны ўчастак у вёсцы Заборцы на будаўніцтва школы. Таксама Вацлаў Дамейка быў адным з фундатараў вядомага гатычнага касцёла ў Гервятах (Астравецкі раён) і каля яго ў 1935 годзе быў пахаваны.



**Царква ў Сітцах, да 1839 года грэка-каталіцкая.**
*Фота з калекцыі Яна Балзункевіча, каля 1902 года.*

*Кастусь Шыталь*

# Як узнік “каталіцкі” і “праваслаўны” Вялікдзень? І ці можна іх аб’яднаць?

**Чаму розныя хрысціяне часам святкуюць святы ў розныя дні? Як узніклі “каталіцкія” і “праваслаўныя” Божае Нараджэнне ды Вялікдзень? Ці сапраўды гэта такія ўжо розныя даты? І наколькі гэта ўвогуле невырашальнае пытанне?**


Папа Рымскі Грыгорый XIII

З часоў Рымскай імперыі хрысціянскія цэрквы карысталіся адзіным юліянскім календаром, каторы яшчэ да нашай эры ўвёў усім вядомы Гай Юлій Цэзар. Але ў ім была памылка, у выніку якой даты календара пачалі адставаць ад прыроды. У прыватнасці, пачала зміяшчацца дата веснавога раўнадзенства, ад чаго залежыць вылічэнне Вялікадня. У XVI стагоддзі розніца паміж рэальным і каляндарным раўнадзенствамі складала ўжо дзесяць дзён.

Каб выправіць гэта, Папа Рымскі Грыгорый XIII у 1582 годзе ўвёў у дзеянне новы каляндар, які ў гонар яго атрымаў назву “грыгарыянскага”. Тады ў каталіцкім свеце пасля 4 кастрычніка наступіла 15 кастрычніка. Гэтым календаром увесь свет, акрамя шэрагу краін Азіі і Афрыкі, карыстаецца і да сёння. Але не ў каталіцкіх краінах яго ўвядзенню доўга супраціўляліся. Вялікая Брытанія, напрыклад, перайшла на яго ў 1752 годзе, а Расія – у 1918-м.

Рэч Паспалітая, у склад якой уваходзіла і Беларусь, увяла грыгарыянскі каляндар яшчэ ў 1582 годзе. Але вернікам праваслаўнай, уніяцкай (грэка-каталіцкай) і пратэстанцкіх цэркваў было дазволена захоўваць у богаслужэнні юліянскі каляндар. Апошні, дарэчы, зноў быў уведзены ў Беларусі як афіцыйны пасля падзелаў Рэчы Паспалітай.

Тым часам юліянскі каляндар працягваў назапашваць памылку. У XX стагоддзі ён адставаў ад грыгарыянскага на трынаццаць дзён, а з XXII стагоддзя розніца складзе ўжо чатырнаццаць дзён.

Як гэта выглядае на практыцы? Даты галоўных святаў у хрысціянскіх цэрквах адзначаюцца ў адзін дзень, напрыклад, Божае Нараджэнне і ў каталікоў, і ў праваслаўных – 25 снежня. Але з прычыны розніцы календароў 25 снежня паводле юліянскага календара прыпадае на 7 студзеня паводле грыгарыянскага. У штодзённым маўленні гэта называецца адпаведна “новы стыль” і “стары стыль”. Праз 80 гадоў, калі памылка дадасць яшчэ адзін дзень, “юліянскае” Божае Нараджэнне перамесціцца яшчэ далей – на 8 студзеня ў грыгарыянскім календары.

**Новаюліянскі каляндар**

Каб вырашыць гэтую праблему, праваслаўныя цэрквы ўвялі свой новаюліянскі каляндар, у якім даты нерухомых святаў (як Божае Нараджэнне) супадаюць з грыгарыянскім календаром, а рухомых (як Вялікдзень) – з юліянскім. Сёння ім карыстаюцца Албанская, Александрыйская, Антыяхійская, Балгарская, Грэцкая, Канстанцінопальская, Кіпрская і Румынская праваслаўныя цэрквы. А вось Руская, Ерусалімская, Грузінская, Сербская і Польская праваслаўныя цэрквы прытрымліваюцца ўсё яшчэ юліянскага календара.

У РПЦ, часткай якой з’яўляецца і Беларуская праваслаўная царква, новаюліянскі каляндар спрабавалі ўвесці ў 1923 годзе, але неўзабаве ад гэтай ідэі адмовіліся. Тым не менш, сярод замежных прыходаў РПЦ ёсць тыя, якія карыстаюцца абноўленым календаром. Ёсць сярод праваслаўных цэркваў і тая, што цалкам перайшла на грыгарыянскі, – Фінляндская.

Але нават сярод каталіцкіх вернікаў ёсць тыя, хто дагэтуль карыстаецца юліянскім календаром. Гаворка перадусім ідзе пра ўкраінскіх грэка-каталікоў, якія ў адрозненні ад сваіх беларускіх братоў у веры дагэтуль жывуць паводле “старога стылю”. Але ўжо ў хуткім часе сітуацыя зменіцца і тут.

6 лютага 2023 года Сінод УГКЦ абвясціў рашэнне пра пераход на новаюліянскі каляндар. Адбудзецца гэта з 1 верасня, калі ва ўсходніх цэрквах пачынаецца літургічны год. З гэтай даты ўкраінскія грэка-католікі будуць святкаваць нерухомыя святы (Божае Нараджэнне, Хрост Пана, Звеставанне і іншыя) паводле “новага стылю”, а Вялікдзень і прывязаныя да яго – паводле “старога”. Тым парафіям, што не гатовыя да такой рэформы, дазволілі да верасня 2025 года захоўваць юліянскі каляндар. Дазволілі асобным парафіям змяняць каляндар і ў Праваслаўнай царкве Украіны.

**Ці будзе ў хрысціянаў супольны Вялікдзень?**

Тым часам Каталіцкі Касцёл і праваслаўныя цэрквы вядуць перамовы адносна супольнага святкавання Вялікадня, на дату якога вельмі моцна ўплывае розніца ў календарах. Пакуль амаль усе праваслаўныя (як тыя, што карыстаюцца юліянскім календаром, так і тыя, што прытрымліваюцца новаюліянскага) адзначаюць свята паводле асобнай ад каталіцкай пасхаліі.

Як у католікаў, гэтак і ў праваслаўных Вялікдзень святкуецца ў першую нядзелю пасля першай веснавой поўні, якая, у сваю чаргу, адлічваецца ад даты веснавога раўнадзенства – 21 сакавіка. Паколькі розніца паміж “каталіцкім” і “праваслаўным” раўнадзенствам складае 13 дзён, а фазы месяца кожны год розныя, то ў выніку дата Вялікадня ў розных календарах можа адрознівацца ажно на пяць тыдняў. Пры гэтым прыкладна ў 30% выпадкаў католікі і праваслаўныя ўсё ж святкуюць найгалоўнейшае свята ў адзін дзень. Сёлета розніца складзе адзін тыдзень – 9 і 16 красавіка.

**Прапановы наконт сумеснай даты святкавання Вялікадня**

Як распавёў два гады таму старшыня Папскай рады па садзейнічанні хрысціянскай еднасці кардынал Курт Кох, праваслаўны Сусветны Патрыярхат перадаў у Ватыкан прапановы наконт сумеснай даты святкавання Вялікадня для ўсіх хрысціян. Паводле яго, гэтая прапанова вельмі спадабалася Папу Францішку і копцкаму Патрыярху-Папу Тавадрасу.

“Вялікдзень – самае вялікае свята хрысціянства. Таму было б цудоўным і важным знакам, калі б мы, хрысціяне, мелі сумесную дату гэтага свята”, – распавёў кардынал.

Тады ж кіраўнік Пастаяннага прадстаўніцтва Сусветнага Патрыярхату пры Сусветнай радзе Цэркваў арцыбіскуп Тэльмескі Ёў (Геча) выказаўся за праваслаўную каляндарную рэформу. Чакаецца, што яна можа быць праведзена з нагоды 1700-й гадавіны Першага экуменічнага Сабору ў Нікеі, што прыпадае на 2025 год. Паводле іерарха, “гэта добрая магчымасць нагадаць хрысціянам аб неабходнасці каляндарнай рэформы і ўсталявання агульнай даты Велікодных святаў, каб гэтак застацца сапраўды вернымі пастановам Экуменічнага Сабору”.

Стымулам у гэтым кірунку можа стаць тое, што ў 2025 годзе Вялікдзень і ў каталікоў, і ў праваслаўных прыпадае на адзін дзень – 20 красавіка.

*Мечыслаў Гапановіч*

# “Душпастырства і прабыванне з вернікамі – вось маё пакліканне”

## *У Ракаве развіталіся з ксяндзом Дзмітрыем Барылам*

**Раніцай 28 лютага курыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі паведаміла сумную навіну. Па вечную ўзнагароду да Пана адышоў ксёндз-канонік Дзмітрый Барыла – дэкан Валожынскага дэканата, пробашч парафіі Маці Божай Ружанцовай і Святога Дамініка ў Ракаве.**

Спачылы святар нарадзіўся 23 кастрычніка 1974 года ў горадзе Глыбокае, што на Віцебшчыне. Выхоўваўся ў вялікай пабожнай каталіцкай сям’і, дзе было пяцёра сыноў.

Развітанне са спачылым святаром адбылося ў Ракаўскай парафіі, дзе ксёндз Дзмітрый быў пробашчам на працягу дваццаці гадоў, а гэта амаль усё сваё святарскае жыццё.

Набажэнствы распачаліся 1 сакавіка з унясення труны ў касцёл і цэлебрацыяй святой Імшы, падчас якой маліўся біскуп Юрый Касабуцкі. Затым на працягу ўсяго дня і ночы вернікі і святары маліліся ля труны.

Раніцай 2 сакавіка Эўхарыстыю ў інтэнцыі спачылага святара ўзначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Апоўдні труна з целам ксяндза-



каноніка Дзмітрыя была закрыта і распачалася пахавальная Імша. Разам з Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім арцыбіскупам Юзафам Станеўскім за душу спачылага маліліся многія святары з розных куткоў Беларусі, а таксама шматлікія парафіяне Ракаўскай парафіі, родныя і блізкія, сёстры законныя і вернікі з розных рэгіёнаў нашай краіны, якія ведалі святара.

Напачатку іерарх выказаў словы спачування і падтрымкі маме спачылага святара, спадарыні Гэлене, братам, сярод якіх ксёндз-канонік Аляксандр Барыла, пробашч Вілейскай парафіі, а таксама ракаўскім парафіянам, дзе ксёндз Дзмітрый нёс да апошняга дня душпастырскую паслугу.

Падчас гаміліі арцыбіскуп Юзаф нагадаў гісторыю жыцця ксяндза Дзмітрыя, узгадаў яго вучобу ў Гродзенскай семінарыі і Люблінскім універсітэце, выкладчыцкую працу ў Пінскай семінарыі, служэнне ў якасці афіцыяла касцельнага суда Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

Немагчыма не адзначыць і шматгадовую душпастырскую дзейнасць у парафіі ў Ракаве: гэта і рамонт касцёла, плябаніі, рэкалекцыйнага дома для дзяцей і моладзі, пілігрымкі да Маці Божай Будслаўскай і, канешне ж, малітоўная і сакрамантальная паслугі.

“Душпастырства і прабыванне з вернікамі – вось маё пакліканне”, – працытаваў ксяндза Дзмітрыя іерарх.

Кранальнымі словамі скончылася гамілія. Арцыбіскуп Юзаф прамовіў: “Святар Дзмтрый, просім цябе і мы, там, у Божым Валадарстве, прасі за нас Бога, як гэта ты рабіў у дні святарскай паслугі. Прасі, каб мы добра жылі і Бога любілі, жыцця не змарнавалі і на жыццё вечнае запрацавалі”.

Напрыканцы жалобнай Літургіі былі зачытаныя словы спачування, якія скіравалі Апостальскі нунцый у Рэспубліцы Беларусь арцыбіскуп Антэ Ёзіч, арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч, упаўнаважаны па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў Аляксандр Румак.

Словы спачування і падтрымкі выказаў таксама айцец Сяргей Лепін, настаяцель праваслаўнай ракаўскай супольнасці: “Ксёндз Дзмітрый быў не толькі добрым святаром і душпастырам, але і добрым суседам і маім асабістым сябрам. Гэта нашая сумесная страта. Але мы верым і молімся, што ў асобе ксяндза Дзмітрыя Ракаўская парафія набыла для сябе Нябеснага заступніка”.

Куратарам падрыхтоўчага курса духоўнай семінарыі ксяндзом Паўлам Эйсмантам быў зачытаны ліст са словамі падзякі ад роднага брата ксяндза-каноніка Аляксандра Барылы.

У ім святар дзякаваў перад усім Пану Богу за дар жыцця ксяндза Дзмітрыя, а таксама парафіянам, якія зрабілі жыццё святара па-сапраўднаму шчаслівым. Прагучалі словы падзякі медыкам, якія змагаліся за жыццё ксяндза Дзмітрыя, і тым, хто перажываў і маліўся. Таксама ўдзячнасць была скіраваная ў адрас сям’і і святароў, якія падтрымлівалі ў гэтыя цяжкія апошнія дні.

Вельмі кранальна выглядала, як падчас працэсіі святары, змяняючы адзін аднаго, неслі труну на плячах. Так браты ў святарстве праводзілі сабрата ў апошні шлях, просячы Пана Бога, Валадара Жыцця, каб пасля году годнага і ахвярнага зямнога пілігрымавання ксёндз Дзмітрый дасягнуў Вечнага жыцця.

*Вікторыя Філіпенка*



# Служэнне міласэрнасці: агляд дзейнасці “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі




**У ІІІ нядзелю Вялікага Посту, якая сёлета выпадае на 12 сакавіка, ва ўсіх парафіях Віцебшчыны збіраюцца сродкі на падтрымку дзейнасці Дабрачыннага каталіцкага таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі. Згодна з добрай традыцыяй, шаноўным чытачам “Каталіцкага Весніка” прапануецца пазнаёміцца з праектамі і штодзённай працай “Карытас” за апошні год.**



Першасная місія “Карытас” – гэта, безумоўна, **дапамога абяздоленым** і тым, хто знаходзіцца ў патрэбе, у выглядзе прадуктаў харчавання, адзення, абутку, дроваў для ацяплення прыватных дамоў. У 2022 годзе было выдзелена агулам 79580 еўра для аказання дапамогі людзям з інваліднасцю, шматдзетным сем’ям і іншым уразлівым катэгорыям грамадзян. Былі сфарміраваныя 1926 набораў прадуктаў харчавання, набытыя 148 пар абутку, 3110 галоў хатняй птушкі і 529 кустоў саджанцаў для вядзення сельскай гаспадаркі, а 44 сям’і атрымалі запас дроваў.

“Карытас” (Віцебск) аказвае дапамогу людзям, пазбаўленым уласнага дому і падтрымкі блізкіх, пры цесным супрацоўніцтве з цэнтрамі часовага (начнога) знаходжання **бяздомных асобаў** у Віцебску і Оршы. На 2022-2023 гг. было выдзелена 11897 еўра дзеля набыцця прадуктаў харчавання, адзення, абутку і сродкаў асабістай гігіены, каб тыя, хто не мае нават уласнага кутка, маглі весці больш годнае жыццё.

У снежні 2022 года ў Лепелі распачаў сваю дзейнасць **Сацыяльны пункт “Карытас”** для людзей у патрэбе. Асноўным напрамкам дзейнасці Сацыяльнага пункта з’яўляецца аказанне дапамогі, сацыяльных паслуг і кансультацый для людзей, якія знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Сацыяльны пункт ажыццяўляе сваю дзейнасць пры падтрымцы арганізацыі Рэнавабіс (Германія). Каардынатар праекта, юрыст і сацыяльны работнік актыўна аказваюць сацыяльную і юрыдычную дапамогу людзям, якія жывуць у нястачы. Пункт сацыяльнай дапамогі ў г. Лепелі працуе чатыры дні на тыдзень. Двойчы на тыдзень праводзяцца кансультацыі юрыста, які ў неабходных выпадках таксама можа выехаць на дом.

“Карытас” працягвае рабіць супольныя добрыя справы з **дзяржаўнымі сацыяльнымі ўстановамі** Віцебскай вобласці. За апошні год дапамога ў выглядзе сродкаў індывідуальнай абароны, пасцельнай бялізны, прамысловых і побытавых пральных машын была аказана шасці сацыяльным установам (Глыбоцкі псіханеўралагічны дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў, Дунілавіцкі псіханеўралагічны дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў, Бабініцкі псіханеўралагічны дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў, Віцебскі дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў, Максімаўскі псіханеўралагічны дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў, Тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Пастаўскага раёна) на суму 29660 еўра. А жыхарам аддзялення кругласутачнага знаходжання грамадзян пажылога ўзросту і інвалідаў у аг. Краснаполле Расонскага раёна былі перададзеныя адзенне і тавары гаспадарчага прызначэння на суму 2100 еўра.

Адзін з самых даўніх праектаў – **Клуб для людзей з інваліднасцю** – дзейнічае ў сядзібе “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі. Для больш як трыццаці маладых людзей і іх бацькоў клуб з’яўляецца месцам сустрэчы, творчасці, сацыялізацыі, узаемадапамогі. Сустрэчы для людзей з інваліднасцю рэгулярна адбываюцца таксама пры парафіяльных супольнасцях “Карытас” у Глыбокім і Мёрах.

Разам з тым у **Рэсурсным цэнтры сацыяльнай інтэграцыі ў Віцебску** арганізавана дзённае знаходжанне для пажылых людзей, многія з якіх цярпяць на дэменцыю ці маюць інваліднасць. Для наведвальнікаў і іх сваякоў тут існуе магчымасць скарыстацца кансультацыяй псіхолага, зрабіць масаж у масажным крэсле, адпачыць у пакоі рэлаксацыі. Акрамя гэтага, сацыяльныя работнікі “Карытас” арганізоўваюць разнастайныя заняткі на развіццё логікі і памяці, дробнай маторыкі, адмысловыя творчыя майстар-класы, а таксама садзейнічаюць у адаптацыі жылых памяшканняў людзей з цяжкімі захворваннямі. Адна з мэтаў Рэсурснага цэнтра – спрыяць паляпшэнню псіхаэмацыйнага стану не толькі ў пажылых людзей, але і тых, хто іх дагледае, дапамагаць ім спраўляцца са стрэсам і эмацыянальным выгараннем, аказваць ім прафесійную дапамогу і падтрымку.

“Карытас” (Віцебск) надае вялікую ўвагу праектам, накіраваным на падтрымку дзяцей у іх асноўных матэрыяльных і духоўных патрэбах.

На працягу многіх гадоў вялікай папулярнасцю на Віцебшчыне карыстаецца сумесны праект “Карытас” (Віцебск) і “Карытас” (Прага) **“Дапамога дзецям”**. Дзеці з уразлівых груп (у 2022 г. іх было 495) два разы на год атрымліваюць ад дабрачынцаў фінансавую дапамогу для набыцця адзення, абутку, школьных прыладаў ці аплаты навучання. Дадаткова для іх арганізоўваюцца экскурсіі і святочныя мерапрыемствы. Праект накіраваны таксама на паляпшэнне становішча дзяцей і ахову іх правоў. За апошні год на гэтыя мэты было выдаткавана 89 650 еўра.

Запатрабаваным і актуальным праектам “Карытас” (Віцебск) сёлета аказалася дапамога чатыромстам сем’ям з уразлівых груп насельніцтва, якія выхоўваюць **дзетак першага году жыцця.** Бацькі мелі магчымасць набыць самае неабходнае для добрага жыццёвага старту сваіх дзяцей, скарыстаўшыся сертыфікатам.

Вось ужо пяць гадоў запар у Віцебскай дыяцэзіі адбываецца **Конкурс на веданне Святога Пісання** для дзяцей да 14 гадоў уключна. Арганізацыя конкурсу, падрыхтоўка заданняў і ўзнагародаў з’яўляецца пастаральнай ініцыятывай “Карытас” (Віцебск). Конкурс збірае разам не толькі дзяцей, захопленых прыгажосцю Божага слова, але і бацькоў, катэхетаў, святароў, валанцёраў, што і робіць яго такім асаблівым. У 2022/23 навучальным годзе “Карытас” таксама перадаў парафіям **падручнікі** для катэхетычных заняткаў на суму 13322 бел. руб.

**Парафіі Віцебскай дыяцэзіі** якраз з’яўляюцца аднымі з асноўных бенефіцыяраў праектаў “Карытас”, таксама як і восем **інтэграцыйных святліц і араторыяў,** што дзейнічаюць пры іх. На пастаральныя праекты “Карытас” на 2022-2023 гг. выдзелена сума 27654 еўра (падручнікі, канцылярскія прылады, прадукты харчавання, спартыўнае абсталяванне і інвентар, кухоннае абсталяванне, рамонтна-будаўнічыя работы, правядзенне конкурсаў).

Каб дабрачынная дзейнасць была больш эфектыўнай і своечасовай, неабходна заангажаванне парафіяльных супольнасцяў “Карытас”, адкрытыя сэрцы і нястомныя рукі дапамогі, якія мы працягваем бліжняму.

**“Карытас” Віцебскай дыяцэзіі выказвае ўдзячнасць усім святарам і вернікам, ахвярадаўцам і валанцёрам, замежным партнёрам,** хто салідарна падтрымлівае нашу працу фінансава, дзейнасцю ці малітвай. Запрашаем сачыць за нашымі навінамі ў сацсетках і далучацца да супольнай справы міласэрнасці!

*З павагай, каманда* ***“Карытас”*** *(Віцебск).*
*(фота з архіва “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі)*








# Навошта патрэбны скаўтынг? Бо проста катэхезы замала

**"Калі б гадоў 25 таму мне сказалі пра скаўтаў, я б адказаў, што не ведаю, хто гэта такія. Сёння ж нельга ўявіць сабе Касцёл без іх", – казаў калісьці арцыбіскуп Кандрусевіч. Лічыцца, што за два дзесяцігоддзі дзейнасці праз рух прайшлі больш за тысячу хлопцаў і дзяўчат. Чым хрысціянскі скаўтынг прыцягвае моладзь? Што стаіць за каляровымі гальштукамі і формай? Паспрабуем раскласці ўсё па палічках.**

**Арцём Ткачук**



### Пачатак

Канец 80-х XX ст. у БССР. На глебе заняпаду камуністычнай ідэалогіі паўстаюць шматлікія грамадскія ініцыятывы і арганізацыі. У гэтым віры ўтвараецца таксама Аб'яднанне беларускіх скаўтаў. Гэты рух не быў звязаны з хрысціянствам ці, тым больш, з рэлігійнымі арганізацыямі. Нягледзячы на гэта, грэка-каталіцкі святар а. Ян Матусевіч амаль з самага пачатку актыўна ўліваецца ў яго дзейнасць. "Айцу Яну падабалася ідэя руху і ён бачыў шмат сэнсу ў евангелізацыі гэтага асяроддзя", – кажа Сяргей Раюнец, аўтар працы па гісторыі беларускага каталіцкага скаўтынгу і адзін з першых хрысціянскіх скаўтаў Беларусі.

Неўзабаве да дзейнасці айца Матусевіча далучаецца а. Андрэй Абламейка, таксама грэка-католік. У канцы 90-х становіцца відавочным, што існуе запатрабаванне арганізацыі скаўтаў, якія б рабілі ўхіл на хрысціянскія каштоўнасці. У 1999 г. ад агульнага руху аддзяляецца група "Гайсак". Туды ўваходзяць скаўты, якія хацелі базаваць сваю дзейнасць менавіта на хрысціянстве. Прадстаўнікі "Гайсака" сустракаюцца з лідарамі Федэрацыі скаўтаў Еўропы (FSE) ці, прасцей, з Аб'яднаннем хрысціянскіх скаўтаў Еўропы. У 2001 г. на возеры Свір адбываецца першая фармальная сустрэча беларускіх хрысціянскіх скаўтаў. Так пачаўся скаўцкі рух у мясцовым Касцёле.

"Скаўтынг – гэта ўсебаковая фармацыя дзяцей і моладзі, якая неабходная ў парафіі, бо проста катэхезы замала, – кажа а. Алег Шпець SChr, нацыянальны душпастыр каталіцкіх скаўтаў Беларусі. – Думаю, што тыя, хто ў 90-я інвеставалі ў супольнасці, інвеставалі ў будучыню. Бо будучыня якраз у такой фармацыі, у людзях".



### "Выхаванне маладых праз маладых"

Нягледзячы на тое, што пачынальнікамі хрысціянскага скаўтынгу былі святары, яго развіццё залежала і залежыць ад свецкіх. Метадыка і педагогіка скаўтаў базуюцца на пастаянных сустрэчах і выездах, падчас якіх ключавую ролю адыгрываюць самыя ўдзельнікі. Хлопцы і дзяўчаты павінны пастаянна дбаць пра самаарганізацыю і адказнасць кожнага. Шэфы руху не хаваюць: скаўтынг займае шмат часу. Духоўныя ж асобы адыгрываюць душпастырскую ролю. "Скаўт выхоўвае скаўта, старэйшы – малодшага, а святар адыгрывае толькі душпастырскую ролю. Роля свецкіх тут вельмі вялікая і фактычна, калі няма свецкіх, то і скаўтынгу няма. Ксёндз можа толькі дапамагаць", – кажа а. Алег.

Аксана Южанінава, генеральны камісар скаўтак, мяркуе што адным з дасягненняў руху ў Беларусі з'яўляецца цэласнае разуменне яго педагогікі. "Спачатку гэта ўсё было навобмацак. Сёння ў нас ёсць скаўты, якія прайшлі поўную фармацыю – ад Божых Каровак (наймалодшая група скаўтаў - аўт.) да шэфаў. Гэта ўжо не проста свецкія людзі, якіх запрасілі ў рух, а падрыхтаваныя кіраўнікі, каторыя цэласна разумеюць нашу педагогіку, – кажа яна. – Мы ўжо гатовыя расці колькасна, аднак у сучасных умовах складана пра гэта думаць. Пакуль што мы спыніліся там, дзе ёсць".

> **Сёння хрысціянскія скаўты ўжо маюць свае напрацоўкі і выдаюць уласныя кнігі.**

Выдадзены ўласны цырыманіял, цяпер ідзе праца над дапаможнікамі. Усё базуецца на матэрыялах еўрапейскай федэрацыі, аднак дапасавана да беларускіх рэаліяў і традыцый мясцовага скаўтынгу.

Сёння каля дзесяці святароў з'яўляюцца скаўцкімі душпастырамі. Рух трымае сувязь непасрэдна з ардынарыямі і штогод дае справаздачу з дзейнасці. Для святароў, якія зацікаўленыя ў актыўнай працы з дзецьмі і моладдзю, скаўцкі рух таксама з'яўляецца істотнай эканоміяй часу. Прынцып выхавання дзяцей моладдзю і моладзі дарослымі фактычна дазваляе духоўніку сачыць за працэсам збоку і толькі накіроўваць яго як душпастыру.

Форма, знакі адрознення, сцягі і іншая атрыбутыка, з аднаго боку, робяць скаўтаў заўважнымі і запамінальнымі, а з іншага – ствараюць стэрэатып дзівакоў, за якім траціцца аб'ёмная педагогіка і метадыка выхавання. Менавіта таму шэфы скаўтаў актыўна прымаюць удзел у розных каталіцкіх мерапрыемствах, каб тлумачыць і экспанаваць ідэі іх руху. "Пасля такіх размоў некаторыя кажуць, што пачынаюць глядзець на нас зусім інакш", – сцвярджае сп-ня Южанінава.

### Чым жывуць скаўты сёння

Цяпер рух налічвае каля пяцісот актыўных удзельнікаў і дзейнічае ў Гродне, Іўянцы, Мінску і Полацку. Сярод іх найбольшая група – гэта хлопцы і дзяўчаты ва ўзросце 12-16 гадоў. Каля трацціны складаюць наймалодшыя "ваўчаняты" і "божыя кароўкі", а шэфы руху, "вандроўнікі" і "праваднiцы", з'яўляюцца меншасцю. Аксана Южанінава мяркуе, што за 22 гады дзейнасці праз іх фармацыю прайшло больш за тысячу чалавек. У маштабах еўрапейскай федэрацыі ці параўноваючы з Італіяй, Францыяй або Польшчай, гэта кропля ў моры. Разам з гэтым беларускі рух колькасна большы за расійскі, украінскі ці літоўскі.

У беларускіх рэаліях скаўтынг цесна звязаны з Касцёлам. Кожная супольнасць фактычна з'яўляецца парафіяльнай групкай. Гэта адрознівае наш рух ад еўрапейскіх федэрацый, дзе скаўты звычайна зарэгістраваныя як асобныя свецкія арганізацыі, хоць і цесна супрацоўнічаюць з парафіямі і таксама маюць душпастыраў. "Таму госці-скаўты, якія да нас прыязджаюць, адзначаюць высокі ўзровень духоўнасці і сувязі з Касцёлам", – кажа сп-ня Южанінава.

Генеральны сакратар скаўтак заўважае, што

> **адным з апошніх дасягненняў стала замацаванне руху ў Мінску.**

"У сталіцы шмат чалавечага рэсурсу. Мы спрабавалі некалькі разоў тут заснавацца і, нарэшце, на працягу некалькі апошніх гадоў нам гэта ўдалося", – канстатуе яна. Айцец Шпець гаворыць, што сёння важна адкрываць новыя скаўцкія адзінкі ў розных гарадах. "Быў такі момант, калі скаўтынг жыў у Мінску, а паўсюль усё "прымірала". Найгоршае – гэта варыцца ва ўласным катле. Цяпер ажывае Гродна, Іўянец актывізуецца. Ёсць надзея, што будзем развівацца", – спадзяецца нацыянальны душпастыр.

### Донары каталіцкіх актывістаў і лідараў

"У парафіях змяняюцца святары, і не кожны гатовы падтрымліваць скаўцкі рух, бо ён патрабуе шмат часу. Многае таксама залежыць ад дарослага свецкага шэфа. Таму, калі знікае толькі святар, то суполка можа пратрымацца. Такая сітуацыя, напрыклад, цяпер склалася ў Гродне. Святар атрымаў іншыя абавязкі, скаўты засталіся без адмысловага душпастыра, але дзейнасць працягваецца, і свецкія шэфы запрашаюць розных святароў. А вось у Гомелі пасля таго, як знік шэф, зніклі і скаўты. Калі ж не будзе ні святара, ні шэфа, то скаўцкая група знікне дакладна", – сцвярджае Аксана Южанінава. Нягледзячы на агульны колькасны рост скаўтаў, лік мясцовасцяў, дзе яны прысутныя, хутчэй, звужаецца. Зніклі суполкі ў Лынтупах, Паставах, Гомелі, Барысаве, Лідзе.

Скаўцкі рух прыцягвае актыўную моладзь, аднак з гэтым таксама звязаны выклік для шэфаў руху. "Мы рыхтуем скаўтаў быць універсальнымі ва ўсіх сферах, а таму іх хутка "разбіраюць" у іншыя парафіяльныя групы, і такім чынам частка іх трацім", – дзеліцца з намі суразмоўца. Разам з гэтым дэфіцыт адказных і актыўных людзей адчуваюць і скаўты. Найбольш яскрава гэта бачна на ўзроставай структуры руху ў Беларусі, бо большасць скаўтаў-падлеткаў не пераходзіць у т.зв. "чырвоныя", ці групу шэфаў ва ўзросце 17+, якія нясуць асноўную адказнасць за дзейнасць. "Толькі 10% зялёных пераходзіць у "чырвоныя", але разам з гэтым шмат людзей пераходзіць у іншыя служэнні ў Касцёле. Не менш важныя. Хоць нам шкада, канешне, што губляюцца шэфы", – рэзюмуе сп-ня Южанінава.

Цікава, што сярод "чырвоных" скаўтаў ёсць шмат паспяховых менеджараў у айці-сферы, бізнэсменаў, лекараў і іншых адмыслоўцаў. Некаторыя з іх дасягнулі поспеху дзякуючы скаўцкай загартоўцы, а некаторыя, наадварот, дасягнуўшы поспеху, адкрылі для сябе скаўтынг. "Скаўцкі дух служэння гартуе хрысціяніна, і мяне ён гартаваў. Гэта ўсё дапамагае асобе вырасці і адужаць у хрысціянскім сэнсе, таксама ў кантэксце Беларусі і Еўропы", – кажа Сяргей Раюнец. Аксана Южанінава, у сваю чаргу, прызнаецца, што дзякуючы скаўтынгу яна таксама зрабіла важны крок у прафесійным развіцці: "Я была настаўнікам, а пасля пайшла ў айці з нуля. Менавіта скаўтынг навучыў мяне не баяцца новага", – падсумавала суразмоўца.



# У Лепелі прайшла чарговая сустрэча духавенства Віцебскай дыяцэзіі



**7 сакавіка ў касцёле св. Казіміра ў Лепелі адбылося спатканне біскупа Алега Буткевіча са святарамі, законнымі братамі і сёстрамі Віцебскай дыяцэзіі.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Склалася добрая традыцыя распачынаць сустрэчу з канферэнцый для ксяндзоў і манахінь. Кс. доктар біблійнай тэалогіі Валерый Марціноўскі засяродзіўся разам са святарамі над урыўкам з кнігі мудрасці Сіраха, дзе аўтар пералічвае розныя прафесіі тагачаснага свету і паказвае кантраст паміж рамеснікам і мудрацом. Часта здараецца, што ксёндз на парафіі можа выконваць усе справы (будаваць, рамантаваць), але часу і ахвоты на служэнне людзям не застаецца. Дакладчык прыгадаў тры прыярытэты – "слупы" – святарства: Эўхарыстыя і сакраманты (старанна падрыхтаваныя і цэлебраваныя), абвяшчэнне Слова (ва ўсіх яго вымярэннях) і Caritas – Любоў Хрыста (прабываць з Божым народам, які церпіць).

Для манаскіх сясцёр а. Яраслаў Банасяк OFMConv казаў пра пакуту. Абранае жыццё з Хрыстом – гэта ўдзел у пакаянні за збаўленне. Манаскае пакліканне – трываць разам з Ім. Пакаянне вядзе да навяртання, да перамены, у глыбіню сэрца, да еднасці з Хрыстом. Прыклады св. Францішка і св. Клары заахвоцілі манахінь да роздуму і практыкавання гэтага духоўнага скарбу.

Затым быў час на прабыванне ў цішыні ў прысутнасці Езуса Эўхарыстычнага і сакрамант пакаяння.

Сустрэчу працягнула святая Імша, галоўным цэлебрантам якой стаў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Гамілію іерарх прысвяціў тэме святарства, бо гэта не прафесія, а пакліканне і зусім няпростае заданне, дзе падыход павінен быць вельмі адказным. Фрагмент Евангелля паводле Мацвея (23, 1-12), які чытаўся ў гэты дзень ва ўсім Касцёле, – "пэўны рахунак сумлення для святароў і біскупаў", адзначыў біскуп Алег.

Наступная сустрэча пройдзе ў Вялікую сераду 5 красавіка ў Віцебску.



## На красавік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння

**1 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. пралат Францішак Кісель** *(Полацк)*, **кс. Чэслаў Курэчка MIC** *(Расія)*;

**4 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Эдуард Сінкевіч SCJ** *(Варапаева)*;

**8 красавіка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** *(Навалукомль)*;

**10 красавіка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**11 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валеры Орсік** *(Дзеркаўшчына)*;

**13 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*, **кс. Алег Хмылко** *(Полацк)*;

**19 красавіка** – імяніны адзначае **кс. Валеры Марціноўскі** *(Віцебск)*;

**22 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*;

**23 красавіка** – дзень нараджэння і імяніны адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*; імяніны адзначаюць **кс. Юрый Барок, кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*, **бр. Войцех Врублеўскі OFMCap** *(Докшыцы)*;

**24 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **бр. Войцех Врублеўскі OFMCap** *(Докшыцы)*;

**25 красавіка** – імяніны адзначае **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*;

**26 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Генадзь Добрук** *(Гродзенская дыяцэзія)*;

**28 красавіка** – імяніны адзначаюць **кс. Віталь Бяленік** *(Падсвілле)*, **а. Віталь Бандаронак OFMCap** *(Докшыцы)*.

*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

# Тэст на "І"

**Запрашаем шаноўных чытачоў паразважаць над алфавітнай віктарынай. У гэты раз усе адказы пачынаюцца з літары "і".**

**1 Святы Патрык – апякун краіны...**



**А.** Ірландыя
**Б.** Італія
**В.** Іспанія

**2 Падчас панавання якога Ізраэльскага цара нарадзіўся Езус?**



**А.** Ірадыён
**Б.** Ір
**В.** Ірад

**3 Якое імя атрымаў Якуб пасля таго, як змагаўся з Богам?**



**А.** Ізмаіл
**Б.** Ізраэль
**В.** Ісахар

**4 Якое імя меў знакаміты святы, каторы быў вучнем апостала Яна, аўтарам паслання да Рымлянаў і біскупам Антыёхіі?**



**А.** Ігнацый
**Б.** Іларыён
**В.** Ісідор

**5 Якое імя было ў жанчыны, катория спланавала смерць Яна Хрысціцеля?**



**А.** Іска
**Б.** Ірадыяда
**В.** Іра

**6 Вялікі прарок, які ўехаў на неба на калясніцы**



**А.** Ілля
**Б.** Ісая
**В.** Іфран

**7 Хто прадаў першынства за ежу?**



**А.** Ісай
**Б.** Ісаў
**В.** Ісак

**8 Вузкая брама ў Ерусаліме, якая стала часткай прамовы Езуса**



**А.** ігольнае вушка
**Б.** іржавая
**В.** ісціннная

**9 Што Бог адкрыў Майсею падчас сустрэчы на гары Мадыямскай?**



**А.** ісціну
**Б.** імя
**В.** інфармацыю

**10 У якім населеным пункце знаходзіцца гэты касцёл?**



**А.** Івацэвічы
**Б.** Ішкалдзь
**В.** Іўе

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

*Падрыхтавала*
***Лаліта Арлоўская***

Каталіцкі ВЕСНІК №3 (144) сакавік 2023 г.

# Рэквіем па Віцы




**Калі мы чуем пра смерць маладой асобы, звычайна становіцца няёмка. Хочацца апусціць вочы, змаўчаць. Падаецца, што ўсе падабраныя словы будуць ці то недастатковымі, ці то залішнімі...**

Аднак скаўтка Маргарыта распавядае пра заўчасны адыход сяброўкі бадзёрым голасам. Узгадвае пэўныя моманты з іх адносінаў – усміхаецца, іншыя – раздражняецца. Падобна і ксёндз Андрэй. Упэўнены, што дзяўчына больш патрэбная ў Небе: яна будзе добрым заступнікам для блізкіх людзей. Гэта ёсць вера ва Уваскрасенне.

### Добрая каталічка

Пасля 9-ага класа Віка пераехала з Ваўкавыска ў Гродна, дзе навучылася дызайну ў каледжы і затым знайшла працу па прафесіі. У горадзе над Нёманам яна далучылася да мясцовай парафіі на Дзевятоўцы: ёй хацелася ўзрастаць у веры. Там дзяўчына вырашыла працягваць шлях хрысціянства як скаўтка, аддана служачы дзяўчатам праз тры позіркі: "шэфа", "старэйшай сястры" і "духоўнага кіраўніка".

*"Спачатку Віка была дапаможным шэфам "божых каровак", клапоцячыся пра дзяцей. Пасля – шэфам "вогнішча", займаючыся маладымі дзяўчатамі"*, – распавядае яе сяброўка Маргарыта. – *Для першых яна бясконца арганізоўвала гульні, майстар-класы. Для другіх рабіла "квэсты" па горадзе, запрашала паразважаць над далікатнымі тэмамі, напрыклад, пра асабістыя межы. І мне вельмі падабалася тая чуласць, з якой яна ставілася да дзяўчат. Віка ніколі не настойвала на тым, каб новыя ўдзельніцы далучаліся да супольнасці. Проста пакідала свой кантакт і цярпліва чакала, калі чалавек зробіць дарослы выбар і сам ёй напіша".*

Дзяўчына дадае, што Віка была руплівай і ў малітве, заўсёды дбала пра яе, ці то перад абедам, ці то перад іншым дзействам. Ніколі не прымала паспяховых рашэнняў: спачатку малілася, затым чытала Слова, толькі пасля рабіла выбар. *"Памятаю, калі нам даводзілася начаваць разам, яна ані разу не абмінула вячэрнюю малітву. Не важна, наколькі стаміліся мы. І заўсёды заканчвала яе словамі: "Ноч спакойную, смерць шчаслівую, няхай дасць Бог Усемагутны"*, – узгадвае Маргарыта.

### Моцная ў немачы

Віка мела праблемы са здароўем, але ніколі не адкладвала візіты да ўрачоў, бо ставілася з павагай як да душы, так і да цела. Аднак гэтая хвароба мае пэўную асаблівасць: спачатку затаіцца, а пасля ўдарыць на поўную моц. *"Яна пазванiла мне і сказала, што падчас каланаскапіі трубка прайшла толькі на пару см – наткнулася на пухліну. Я была шакаваная, бо як медык разумела, што рак кішэчніка – гэта пра сталых людзей"*, – дзеліцца Маргарыта. – *Я пачала разважляць з ёй фразамі тыпу "Давай спадзявацца на лепшае", "Нічога страшнага, мы будзем змагацца". Сама баялася прызнацца сабе ў выразным адказе, пакуль Віка неяк не абарвала мяне: "Ты не ўмееш падтрымліваць! Пагляндзі сапраўднымі вачыма на тое, што са мной адбываецца! Мне проста хочацца пачуць словы спачування""*.

Анкахворы заўсёды пакутуе ад болю. Мяняецца толькі яго эмацыйная афарбоўка: то боль тупы, то пякучы, то спастычны. А часам дакучае аднначасова ў розных увасабленнях. Віцы таксама было балюча. Аднак, як кажуць яе напарніцы па скаўтынгу, пачуць, што яна скардзіцца, было амаль немагчыма. Нават падчас "вандровак" (*перыядычныя выезды на прыроду, калі аддаленыя ад вывад цывілізацыі скаўткі павінны ўласнаручна арганізаваць свой побыт* – заўв. аўт.), Віка была здольная і "перацярпець", і падбадзёрыць у крытычных сітуацыях.

*"Мяне больш за ўсё здзіўляла, як у яе атрымлівалася захаваць чуласць падчас хваробы. Памятаю, калі ёй было ўжо зусім кепска, мой дзядуля і бацька захварэлі на кавід. Дзядуля памёр. І Віка званіла мне ў дзень пахавання, каб падтрымаць, каб спытацца пра самаадчуванне бацькі. Апроч уласнага болю, яна была здольная "загрузіцца" і чужым"*, – распавядае Маргарыта.

Віка старалася не прымаць абязбольвальныя, каб яны не замінлі ёй перажываць у яснасці розуму апошнія месяцы яе жыцця. Як прызнавалася сама хворая, гэтыя таблеткі таксама перашкаджалі ёй маліцца: рэальнасць моцна блыталася з ілюзіяй. У пэўны момант дзяўчына свядома адмовілася прымаць і тыя таблеткі, якія былі прапісаныя для барацьбы з пухлінай. Аказалася, што натхненне на гэтае рашэнне апраўдала сябе: аналізы паказалі, што таблеткі атручвалі арганізм і ніяк не ўплывалі на пухліну. Да таго ж высветлілася, што 14 з 18 хіміятэрапій, якія ёй давялося перанесці, былі зробленыя з няправільным хімскладам, і толькі скарацілі адведзены дзяўчыне час. Яна прыняла гэтыя абставіны з пакорай.

### Жыццё напоўніцу да апошняга ўздыху

*"Яшчэ за год да адыходу Віка папрасіла падрыхтаваць яе да смерці"*, – узгадвае духоўны кіраўнік дзяўчыны кс. Андрэй CSsR. – *Думаю, ужо тады яна прыняла рашэнне ісці гэтым шляхам. Або ты жывеш, лечышся і хаваешся ад свету. Або жывеш, дарыш сябе, ахвяруеш, наколькі хопіць сіл. Будучы ў хваробе, яна вельмі актыўна планавала сваё жыццё. Адаптавала яго пад новыя абставіны. Калі ў графіку стаяла хіміятэрапія, значыць, пасля два-тры дні, каб дайсці да сябе, а затым збіраць скаўтак у вандроўку".*

Ведаючы, што памірае, Віка працягвала вучыцца ва ўніверсітэце. У якасці дыпломнай працы яна пераклала на беларускую мову даведнік для скаўтаў "Сляды агню". *"На 4-ай стадыі раку, пасля некалькіх хіміі, яна вырашыла здаваць "госы". Зразумела, дыплом ёй не быў патрэбны. Гэта была моцная пастанова служэння, бо яна ведала, што кніга вельмі спатрэбіцца скаўцкай супольнасці"*, – дадае святар.

Віка знаходзіла часі на ўдзел у рэкалекцыях, і на чытанне літаратуры пра духоўную аскезу, насычаючыся ведамі, як злучыць цярпенне з крыжам Хрыста.

### Сказала Богу "так"

Кс. Андрэй CSsR прызнаецца, што Віка моцна штурхала да ўзрастання ў веры і сваім жыццём правяла рэкалекцыі для скаўцкай супольнасці: *"Яе падтрымлівалі амаль усе скаўты Еўропы. Удзельнікі руху слалі ёй лісты, маліліся ў інтэнцыі дзяўчыны. Яна падняла духоўную хвалю, якая ўзрастала да апошняга дня яе жыцця".*

Разам з тым Маргарыта дадае, што Віка дапамагла мясцовым скаўтам зразумець, што яны сапраўдная сям'я: *"Мы навучыліся прасіць адно аднаго аб малітве, навучыліся самой малітве. Сталі прысвячаць адно аднаму больш часу, казаць пра каштоўнасць кожнага. Пачалі дарыць падарункі без прычыны. Не кажучы пра тое, колькіх удзельнікаў яна натхніла на служэнне. Цяпер не важна, ці то ў чалавека сям'я, ці праца, ён знаходзіць час для развіцця супольнасці. Амаль усе дзяўчаты, якія былі ў яе "вогнішчы", сталі або "шэфамі", або "дапаможнымі шэфамі"*.

За паўгода да смерці Віка прайшла цырымонію "Fiat". Скаўткі вырашаюцца на яго, калі адчуваюць, што скончылі фармацыю і хочуць скласці Усявышняму абяцанні. Дзяўчына дала слова выбіраць Божую волю ў сваім жыцці і ў меру сілаў служыць скаўцкаму руху да апошняга дня. *"Дэвізам цырымоніі Віка абрала словы "Апраніцеся ў любоў", а сваім сімвалам – "крынічку". Кожны чалавек на працягу жыццёвага шляху мае патрэбу час ад часу спыніцца каля крыніцы, каб падумаць, набрацца сіл. Віка хацела быць для людзей менавіта такой крынічкай. І ў яе атрымалася. Паразмаўляўшы з ёй, заўсёды можна было адчуць сябе выслуханым і ўздужалым"*, – гаворыць сяброўка.

Ахвярнасць дзяўчыны праявілася і ў апошнім, што яна магла мець для сябе пры жыцці, – у яе пахаванні. *"Мы абмяркоўвалі з Вікай, як яна хоча быць апранутая падчас апошняга шляху – у белую сукенку, а можа, у скаўцкую форму. Ад формы яна адмовілася адразу, хацела, каб яе разабралі для сябе іншыя скаўткі*, – узгадвае Маргарыта. – *Скаўцкае адзенне мы замаўляем у Польшчы, і гэта заўсёды вельмі складана. Таму ў яе словах, як і звычайна, былі толькі логіка і клопат".*

***

У свае апошнія дні Віка вельмі схуднела, не хадзіла, ёй было складана сядзець. А перад самай смерцю яна ніяк не магла знайсці зручную позу на ложку. Дзяўчына папрасіла бацькоў заслаць ёй на падлозе і пакінуць на момант адну. З суседняга пакоя маме і тату было чуваць мармытанне дачкі, нібы тая намагаецца з кімсьці пра штосьці дамовіцца. Калі ўсе сціхла і бацькі вярнуліся да дачкі, Віка ляжала са спакойным выразам на твары. Тата паклаў ёй у рукі крыж і сказаў: *"Ну вось, пэўна, дамовілася..."*

***Ангеліна Марцішэўская***


Скаўцкая супольнасць, якую ўзначальвае кс. Андрэй CSsR. Віка першая злева


2019 год - дзяўчыне цяжка падчас "вандроўкі". Яна пакуль не ведае, што хварэе


Віка з Маргарытай, лета 2020 г. Дзяўчына ўжо ведае пра анкалогію

# У ХАЦЕ ХАЛОДНА. ТРЭБА СЁННЯ ТАПІЦЬ

## *Ці так павінна быць па-беларуску?*

**Нагодай для сённяшняга матэрыялу нашай моўнай старонкі стаў допіс сталага чытача "Каталіцкага Весніка" спадара Уладзіміра з Шаркаўшчынскага раёна. Сярод некалькіх пытанняў, якія ён закранае ў сваім лісце, звяртае на сябе ўвагу адно, найбольш актуальнае, на наш погляд.**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*



Так, спадар Уладзімір, у прыватнасці, піша: "Даўно хацеў высветліць для сябе, як правільна па-беларуску сказаць. Маю на ўвазе сітуацыю, калі мы абаграваем хату. І хоць зіма ўжо амаль закончылася, але пытанне гэтае неяк не пакідае мяне. У нас кажуць *"тапіць"*. Напрыклад, *тапіць хату, тапіць кухню* ці *веранду*. Але ў мяне ёсць сумненні, ці правільна гэта? Бо паяўляецца нейкая двухсэнсоўнасць..."

Адразу адзначым, што закранутае сп. Уладзімірам пытанне насамрэч важнае, яно нярэдка ўздымаецца аматарамі культуры роднага слова і патрабуе адпаведнага разгляду. Таму паспрабуем разабрацца, як павінна ўсё ж быць па-беларуску.

Канструкцыі кшталту *трэба тапіць у хаце, пратапіць у кухні, печка будзе доўга тапіцца* дастаткова распаўсюджаныя ў вуснай камунікацыі на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Міжволі прыгадваю, як недзе гадоў трыццаць таму трапілася мне на вочы публікацыя ў адной з нашых раённых газет, дзе апісваўся побыт маладой сям'і, што пераехала ў вёску. І сярод іншага фраза: ***палаюць дровы, топіцца печ***. Я адмыслова тады выпісаў гэты кантэкст, бо ён насамрэч паказальны, нібы з'яўляецца часткай нейкага сюррэалістычнага сюжэту. Варта толькі прывесці асноўнае значэнне дзеяслова тапіць – "сілай апускаючы ў ваду, прымушаць ісці на дно; затапляць". Тады атрымліваецца, што дровы палаюць, нягледзячы на тое, што печ апускаецца ў ваду:) Насамрэч, чым не сюррэалістычны матыў?)

Дзеяслоў *тапіць*, акрамя згаданага, мае, што праўда, і іншыя значэнні: 1. Пагружаць у сябе што-небудзь (*Раз'езджаная дарога* ***тапіла*** *калёсы*. Цішка Гартны); 2. Губіць, выдаючы, абгавараючы каго-небудзь (*– А ты будзеш на паноў старацца ды людзей* ***тапіць****? – не сцярпела Аўгіня*. Якуб Колас); 3. Заглушаць пры дапамозе чаго-небудзь пачуцці, думкі (*Бацька папёр падсвінкаў на падворак, сагнаў на іх злосць і пачаў* ***тапіць*** *сваю крыўду ў працы*. Аляксей Карпюк). Як бачым, ніводнае з прыведзеных значэнняў слова ***тапіць*** не падыходзіць да нашага кантэксту. Дык як жа тады павінна быць?

Несумненна, варта, калі мы гаворым пра пячное ацяпленне, выкарыстоўваць дзеясловы **паліць** і **цепліць**. Як падае "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", **паліць** – "абаграваць, награваць памяшканне, раскладваючы агонь у печы, пліце і г.д. (*У бібліятэцы, відаць, яшчэ не палілі, і Наташа амаль не валодала пасінелымі ад холаду рукамі*. Мікола Ракітны; *Пакуль мужчыны палілі лазні, дзяўчаты і жанчыны мылі ў хатах падлогу, прыбіралі ў сенцах*. Алесь Асіпенка).

**Цепліць (цяпліць)** – "абаграваць памяшканне, паляччы ў печы або раскладаючы агонь" (*У пятніцу пасля абеду аканом загадаў* ***цяпліць*** *лазню для мужчын*. Аркадзь Чарнышэвіч).

Тут выразна бачна, што дзеяслоў непасрэдна карэлюе ў семантычных адносінах з паняццем *цяпло*. Таму і ўжыванне формаў **працепліць** ці **выцепліць** таксама цалкам прымальнае.

Такім чынам, вынесеная ў загаловак канструкцыя няправільная, яна парушае культуру беларускага маўлення. З задавальненнем адзначым добры моўны густ нашага чытача сп. Уладзіміра, яго чуйнасць да роднага слова. А найлепшым, на наш погляд, быў бы такі варыянт: **У хаце халодна. Трэба сёння *працепліць*.**

Спадзяёмся, што прапанаваны матэрыял паспрыяе далейшаму засваенню сапраўды адметных беларускіх слоў і словазлучэнняў, якія адлюстроўваюць у сканцэнтраванай форме шматвяковы досвед нашага народа.

### *Хвала Хрысту!*



*Віншуем шаноўнага біскупа Алега Буткевіча з Днём народзінаў! Дзякуем Богу, Які праз бацькоў падараваў Вам жыццё і вядзе сумленнай дарогай апосталаў! Дзякуем за пакорлівае служэнне кожнаму з нас, за простую любоў да нашых дзяцей, за мужнае навучанне ў Духу праўдзе і міру!*

*Ойча Усемагутны! Ратуй нягоднага слугу Твайго ад наступства грахоў!*

*Езу Міласэрны! Будзь літасцівы да пастыра Касцёла ў цяжкія хвіліны!*

*Духу Святы! Натхняй і падтрымлівай біскупа Алега ў Вялікім посце падчас супольнага ўзыходжання на гару з Хрыстом! Каб умацаваныя ў веры мы маглі заставацца на крыжовай дарозе разам з Беззаганнай Маці і бачыць прычыну нашай Радасці.*

***Парафія Езуса Міласэрнага, г. Віцебск.***

### *Хвала Хрысту!*



*Шчыра віншуем ксяндза Уладзіслава Шарковіча з Днём Нараджэння.*

*Шаноўны ксёндз Уладзіслаў, прыміце нашыя шчырыя віншаванні! Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы, заўсёды адорвае сваімі ласкамі, а Святы Дух асвятляе сваім святлом кожны дзень. Жадаем моцнага здароўя, шмат сіл і цярплівасці ў пастырскай паслузе. Няхай Ваш святарскі шлях заўсёды атуляе сваёю нястомнаю апекаю Міласэрная Маці Божая.*

***З павагай і малітвай, вернікі парафіі св. Яна Хрысціцеля аг. Опса.***

# Вялікі пост: раней і сёння

Рыхтуючыся да чарговага Вялікага посту, я шмат разважаю над тым, як мне трэба перажыць яго ў гэтым годзе. Я яшчэ не знайшла адказу на гэтае пытанне, але звярнула ўвагу на тое, як змяніўся мой падыход да посту з цягам часу.

Да гэтай пары жыццё падзеленае на тры перыяды: дзяцінства, сталенне і сёння. Ад дзяцінства да сталення ў веры быў больш плаўны пераход, а вось цяпер сітуацыя крыху іншая. Але па парадку.

Што такое Вялікі пост, я даведалася, калі пачала хадзіць на рэлігію ў касцёл. Тады гэта ўспрымалася як нейкі дрэнны час, бо трэба было ад нечага адмовіцца, нельга было слухаць музыку, спевы ў касцёле былі сумныя. Але плюс тут быў: мне вельмі падабаўся Крыжовы шлях, і я не магла прапусціць суботні паход у касцёл.

Я сталела, але Крыжовы шлях заставаўся важным элементам у перажыванні Вялікага посту. Для моладзі ў маёй парафіі ён адбываўся ўвечары: у цёмным касцёле, дзе амаль цалкам святло патушылі, пад добра выбраныя разважанні набажэнства адгукалася ў душы зусім інакш.

Другім важным элементам перажывання Вялікага посту заўсёды быў выбар пастановы. Спачатку я спрабавала адмовіцца ад салодкага, потым – не слухаць музыку, пазней – не сядзець у сацсетках, а потым і адмовіцца ад алкаголю. Калі вучылася ў старэйшых класах, то адмовы замянілі духоўныя пастановы: то чытаць Біблію кожны дзень, то пайсці на імшу на тыдні, то маліцца нейкай канкрэтнай малітвай.

У нейкі адрэзак часу пост успрымаўся як час на выпрабаванне сябе. Хацелася даказаць сабе, бацькам, святарам, сёстрам і нават Богу, што я магу быць яшчэ лепшай хрысціянкай, хацелася за час посту "выдрэсіраваць" сябе.

У сённяшні дзень я прыйшла з зусім іншым поглядам. На Крыжовы шлях цяжэй знайсці час, на песні жальбы да гэтай пары ніколі не сходзіла. Ад нічога не адмаўляюся, хіба што гэта сапраўды палепшыць мае зносіны з Богам ці з іншымі людзьмі. Музыка ў навушніках змяняецца на хрысціянскія матывы, у ютубе, акрамя стэндапаў, з'яўляюцца розныя рэкалекцыі і кароткія разважанні святароў-блогераў.

Закручваючыся ў штодзённасці і манатоннасці жыцця, я трачу сэнс перажывання Вялікага посту. Але я ўвесь час прыгадваю сабе, што гэта хоць цяжкі і сумны шлях, але перадусім гэта час Любові. Перыяд, калі можна ахвяраваць нешта для кагосьці. Неабавязкова дапамагаць фінансава, можна дзяліцца сваім часам з іншымі. Варта суцішыцца, варта часцей падымаць вочы на крыж і прыгадваць сабе, што менавіта гэта ёсць сэнсам усяго.

Шмат што змянілася, але нязменнае адно: споведзь на пачатак посту і каб з чыстай душой, са светлымі думкамі, не маючы ніякага цяжару, распачаць Вялікі пост і годна перажыць гэты час.

***Яна Чайко***



# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Тэрэса Лешчык** *(Сарокі)*, **Сафія Рагіня** *(Сарокі)*, **Эма Клепацкая** *(Сарокі)*, **Валянцін Бартко** *(Сарокі)*, **Феліцыя Пачкоўская** *(Гірстуны)*, **Вольга, Васіль, Таццяна Галубёнак** *(Гірстуны)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Тэрэза Вврановіч** *(Докшыцы)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Ніна Маруныко** *(Новалукомль)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Часлаў Юршэвіч** *(Мількі)*, **Эдуарда Аляксеева** *(Дунілавічы)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Елізавета Лебедзева** *(Бягомль)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Антаніна і Ганна Дарашкевіч** *(Янкавічы)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Раман Цярэнцьеў** *(Полацк)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Люцыя Голуб** *(Дуброўшчына)*, **Тэрэза Рулевіч** *(Браслаў)*, **Марыя Лубнеўская** *(Мядзел)*, **Рэгіна Ціхая** *(Камарова)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Вера Беганская** *(Жары)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб’е)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Эльвіна Богуш** *(Глінчычына)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Іван Сіманёнак** *(Паставы)*, **Галіна Драгун** *(Юркаўшчына)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб’е)*, **Алена Карневіч** *(Ніўнае)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Ала Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Даната Сярогіна** *(Глыбокае)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Даната Алейнік** *(Мосар)*, **Ірэна Сіманенкава** *(Мосар)*, **Аліна Бука** *(Мосар)*, **Яніна Ластоўская** *(Мосар)*, **Ядвіга Лысёнак** *(Мосар)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Марыя Міронава** *(Мосар)*, **Уладзіслава Бохан** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Альжбета Калмук** *(Мосар)*, **Чэслава Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Ванда Альсевіч** *(Мосар)*, **Марыя Ткачонак** *(Мосар)*, **Яніна Скаўронская** *(Луцк Масарскі)*, **Чэслава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Зоф'я Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Арсеній Фёдараў** *(Глыбокае)*, **Ванда Саковіч** *(Мосар)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Валянціна Рыбак** *(Гомель)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Алена Ванішэўская** *(Пышкі)*, **Сульвіна Кушняровіч** *(Сушчава)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Ніна Гайдзель** *(Яя)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Ядвіга Піліпенка** *(Параф’янава)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Сцепаніда Грэцкая** *(Вазоўнікі)*, **Ганна Лаўнікоўская** *(Лучай)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Адэля Шумская** *(Наваполацк)*, **Альфрэда Меранцова** *(Віцебск)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Альдона Сіўко** *(Забалоцце)*, **рух “Маці ў малітве”** *(Відзы)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Эмілія Сткала** *(Юльянова)*, **Клемянціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Гэлена Сліжэўская** *(Буйкі)*, **Станіслава Пятліцкая** *(Баранавічы)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Іван Кіслы** *(Швакшты)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка” выказвае шчырае спачуванне арцыбіскупу Юзафу Станеўскаму Мітрапаліту Мінска-Магілёўскаму ў сувязі са смерцю св.п. Гэлены Станеўскай, мамы іерарха. У малітве просім Міласэрнага Айца аб дапушчэнні яе да Нябеснага Валадарства. Няхай добры Бог не зважае на яе правіны, а ў сваёй міласэрнасці адорыць ласкай сузірання свайго аблічча ў небе.

Выказваем таксама шчырыя спачуванні ўсім блізкім і родным памерлай, каго асабліва закранула гэтая смерць.

*Вечны адпачынак дай ёй, Пане, а святло вечнае няхай ёй свеціць. Амэн.*



# ПОСТ

**Пост можа здавацца чымсьці архаічным нават вернікам, тым больш што сучасныя модныя плыні прапануюць альтэрнатыву таго, што нагадвае пост, бярэ з яго пачатак, і хоць дае рэальныя эфекты, постам не з’яўляецца.**



Варта задумацца над тым, якое месца займае пост у нашым духоўным жыцці. Магчыма, нешта нам цяжка даецца таму, што мы да канца не разумеем мэты. Ведаем, што трэба пасціць. Заахвочвае нас на гэтага літургічны перыяд Вялікага Посту, але чаму служыць гэтая духоўная практыка, да канца можам сабе не ўсведамляць. З гэтага бярэцца параза ўсіх нашых добрых пастановаў. Памятаючы яшчэ з катехезы, можам сказаць, што пост – гэта адзін з найважнейшых хрысціянскіх учынкаў. Але спроба вытлумачыць, як ён дапамагае нам у духоўным развіцці, магла б напаткаць перашкоды.

**Парады св. Тамаша Аквінскага**

На шчасце, мы жывём у супольнасці Касцёла, дзе не мусім заставацца самі з нашымі клопатамі і сумненнямі. Заўсёды можам звярнуцца з пытаннем да іншага. І не толькі да таго, хто жыве цяпер, у нашыя часы. Мы можам чэрпаць з духоўнай крыніцы мудрасці тых, чый аўтарытэт пацверджаны Касцёлам і вытрымаў выпрабаванне часам. Адным з такіх аўтарытэтаў, да якога варта звяртацца, ёсць святы Тамаш Аквінскі. Ён хоць і жыў у XIII стагоддзі, але дзякуючы свайё шматбаковай цікаўнасці пакінуў пасля сябе працы, якія могуць, з невялікай папраўкай на стан актуальных ведаў, быць прыдатнымі ў нашым жыцці. І хоць навука ў галіне ведаў пра чалавека зрабіла вялікі крок, а некаторыя выказванні святога з Аквіну могуць нам здавацца незразумелымі і наіўнымі, чытаючы яго творы, толькі дзіву даешся, як тонка і мудра людзі разумелі рэчаіснасць, у якой жылі, як добра разумелі істоту чалавека, абапіраючыся толькі на свае назіранні і веды тых, хто разважаў у канкрэтным кірунку перад імі. Няхай гэты святы дапаможа нам пановаму зірнуць на такую добра знаёмую практыку посту, якая можа дапамагчы нам упарадкаваць нашае жыццё.

Пра пост святы Тамаш Аквінскі разважае ў пытанні 147, у другой частцы сваёй шматтомнай працы “Сумы тэалогіі”. Трэба адразу адзначыць, што святы разважае пра пост у сэнсе ўстрымання ад ежы. Хаця і не выключае пераноснага значэння гэтага слова, якое азначае ўстрыманне ад усяго дрэннага, ад таго, што з’яўляецца прычынай граху. У сваёй асаблівай манеры ўпарадкавання ведаў святы Тамаш даследуе, ці пост увогуле ёсць чымсьці добрым, г. зн. ці з’яўляецца цнатлівым дзеяннем, якое дапамагае ўзрастаць нам у добрым. Адказаць на гэтае пытанне важна для адрознення посту ад, напрыклад, звычайнага голаду праз беднасць альбо ў нашыя часы ад дыетаў. Святы з Аквіну піша, што пост дапамагае нам дасягнуць патройнай мэты.

**Тры мэты посту**

Па-першае, упарадкаваць і ўсмірыць прагненні цела. Не трэба шмат пераконваць нас у тым, што кожны патрабуе панавання над сваімі часта супярэчнымі прагненнямі, якія перашкаджаюць у выкананні абавязкаў і планаў. Са з’явай адкладвання таго, што маем зрабіць, многія з нас знаёмыя не толькі ў тэорыі. Пост дапамагае загартаваць нашую волю, каб усё ж такі нашыя добрыя памкненні маглі ажыццявіцца.

Па-другое, пост мае служыць лепшаму сузіранню рэчаіснасці найвышэйшага ўзроўню. Не забывайма, што наша цела ўплывае на стан нашай душы і наадварот. Мы можам гэта ігнараваць, але чалавек створаны як цэласнасць душы і цела. Таму праз практыку посту можам дапамагчы нашай душы быць больш успрымальнай да духоўнай рэчаіснасці.

Нездарма гаворыцца пра спалучэнне посту з малітвай і міласцінай. Хто з нас у цяперашнія часы перад прыняццем нейкага важнага жыццёвага рашэння пачынае пасціць, каб больш дакладна ўбачыць, што трэба рабіць? Але мы маем добрыя ўзоры такога посту ў Святым Пісанні. Дастаткова ўзгадаць Даніэля, каралеву Эстэру, а ў Евангеллі – калі Езус ідзе ў пустыню ў пачатку свайго служэння, каб там пасціць.

Нарэшце, па-трэцяе, пост з’яўляецца пакутнай практыкай, якая мае кампенсаваць шкоду за ўчыненыя грахі. І гэта з’яўляецца момантам, якім не можамахарактарызаваць мэту дыеты ці абмежавання ежы ў іншых нехрысціянскіх рэлігіях. Гэта дапамагае нам адрозніць іх ад сапраўднага посту.

**Разумнасць посту**

Святы Тамаш падкрэслівае, што пост мае быць згодны з розумам, гэта значыць, не можна назваць постам такога стану, калі чалавек становіцца няздольным выконваць сваю працу ці абавязкі. Крытэрыем таго, што пост з'яўляецца ўчынкам цноты, з’яўляецца разумовая пастанова чалавека пра ўстрыманне ад ежы, а значыць, усякі знешні прымус пазбаўляе пост яго значэння.

Пост, паводле святога Тамаша, належыць да цноты ўстрымання. Пытанне ў тым, ці мы хочам развіваць у сабе праз пост дзеянне гэтай ці нейкай іншай цноты. Пра такое прагненне ўжо была гаворка на старонках нашай газеты (гл. №7, 2022). Цнота ўстрымання можа дапамагчы нам рухацца ў нашым жыцці вызначаным курсам, як карабель, якім капітан упэўнена кіруе, нягледзячы на зменлівасць ветру і надвор’я ўвогуле. Гэтая цнота найбольш актуальная ў цяперашнім моры інфармацыі і магчымасцяў, якія нам прапаноўваюцца.

Разважаючы над пытаннем, ці ўсе мусяць практыкаваць пост, святы Тамаш з Аквіну тлумачыць, што ён патрэбны толькі як сродак да дасягнення вышэйзгаданых мэтаў і не можа сам па сабе быць мэтай. Пост як лек, каторы чалавек разумна ўжывае, адкрыўшы такую патрэбу, альбо робіць гэта па рэкамендацыі іншага, хто раіць пост як сродак для паляпшэння духоўнага стану.

Варта звярнуць увагу, што святы Тамаш піша пра пост у кантэксце тагачаснай хрысціянскай культуры, якая не брала пад увагу посту для здароўя альбо прыгажосці, адмаўлення ад ежы, пазбаўленага духоўнага сэнсу. Ён узгадвае, што пост, аднак, ёсць нечым цяжкім у перажыванні, таму не з’яўляецца тым, што можна рэкамендаваць усім. Касцельныя ўлады акрэсліваюць час і спосаб пашчэння для дабра вернікаў, які ўсё ж такі патрабуе гэтага сродку як лякарства ад сваёй грэшнасці. У наш час гэта сфармулявана адным з пяці касцельных наказаў. Прычым варта падкрэсліць, што пост не робіць нас нявольнікамі нейкага наказу, а наадварот, служыць нашаму вызваленню з нявол граху.

У разважаннях над тым, хто можа быць звольнены ад посту, з часоў Сярэднявечча адбыліся некаторыя змены. Цяпер пункт 1252 Кодэксу Кананічнага Права Каталіцкага Касцёла акрэслівае, каго датычацца практыка посту, але так, як і

**святы Тамаш, заахвочвае да павольнага прызвычайвання да пакутных практык усіх, незалежна ад узросту.**

Цікавая, але не зусім актуальная заўвага пра тое, што не маюць абавязку посту тыя, хто знаходзіцца ў падарожжы альбо цяжка працуе. Параўноўваючы тагачасныя і сучасныя сродкі транспарту і ўмовы працы, скажам, што яна страціла сваю моц.

Святы Тамаш даследуе таксама, ці адпаведны час выбраны для практыкавання посту як падрыхтоўку да святкавання Пасхі. І зноў жа мэта, якой пост мае служыць, з’яўляецца адказам на пытанне. Гаворачы канкрэтна пра форму посту, святы называе постам адзін дзённы прыём ежы, бо такім чынам мы можам пасціць без шкоды для здароўя. І ён вызначае адпаведны час для посту – каля трэцяй гадзіны пасля поўдня, каб злучыць сваю невыгоду з мукай Хрыста, Які канае, паводле Евангелля, у гэты час.

На заканчэнне разважанняў пра пост святы Тамаш Аквінскі адказвае на пытанне, ад якой канкрэтна ежы трэба ўстрымацца падчас посту. Ён пералічвае мяса, яйкі і малочныя прадукты як тое, што найбольш карыснае, прыемнае ў спажыванні і з’яўляецца ежай, каторая спрыяе з’яўленню ў нашым целе неўладкаваных прагненняў. Аднак ён звяртае ўвагу, што хоць паўсюдным з’яўляецца ўстрыманне ад мяса ў час посту, але абмежаванне іншых прадуктаў залежыць ад звычаяў краіны, у якой мы прабываем. І гэтым зноў жа падкрэслівае, што пост мае вартасць у залежнасці ад мэты, якой дапамагае дасягнуць, а не сам у сабе.

Шмат мудрасці мы можам зачэрпнуць з твораў святога Тамаша з Аквіну, які пісаў, дакладней, дыктаваў, каб іншыя людзі маглі карыстацца тым, што ён адкрыў дзякуючы Божаму дару – розуму. Варта сягаць па гэтыя скарбы, якія прапануе Касцёл.

“Шчаслівы чалавек, які здабыў мудрасць, і чалавек, які набыў розум, таму што іх набыванне лепшае за набыццё срэбра, і карысці ад іх больш, чым ад золата: яны даражэйшыя за каштоўныя камяні. Ніякае зло не можа супраціўляцца мудрасці. Яна добра вядомая ўсім, хто набліжаецца да яе, і нішто з жаданага табою не зраўняецца з ёй”(Прып 3, 13-15).

*Айцец Павел Мажэйка OP*, Віцебск

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:
*Газета “Каталіцкі Веснік” вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
*Місевіч Віктар Мар’янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.*

*Рэдакцыя*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Колькі гадоў было св. Юзафу?

*– Хвала Хрысту! Колькі на самай справе меў гадоў св. Юзаф, калі сустрэўся з Марыяй? Дзякуй за адказ.*

*Ян*

– Шаноўны Ян! На гэтае пытанне адказаць дакладна немагчыма, паколькі няма верагодных звестак, акрамя кананічных Евангелляў, а яны ў сваю чаргу не даюць указання на ўзрост св. Юзафа. Аднак паразважаць над "магчымым" узростам апекуна Божага Сына на падставе евангельскіх апісанняў і апакрыфічнай традыцыі можна, і пэўныя вынікі такі занятак дасць. Пачнём з функцыі, г.зн. з мэты, дзеля якой асобныя евангелісты ўводзяць у свой аповед постаць Юзафа.

**Што кажа св. Евангелле пра Юзафа?**

Найбольш важнай характарыстыкай Юзафа з'яўляецца яго законнае бацькоўства ў дачыненні да Езуса.

**Менавіта Юзаф забяспечыў Давідава паходжанне Езуса, яго месіянскую ідэнтычнасць.**

Бацькоўства Юзафа надзвычай моцна падкрэслівае Мацвей, асабліва ў вымярэнні клопату пра Езуса і Яго Маці Марыю. Лука прадстаўляе дзяцінства Езуса больш з пункту гледжання Марыі, а Мацвей – з пункту гледжання Юзафа. Мы можам з упэўненасцю казаць аб звеставанні анёлам Марыі, аб нараджэнні Езуса ў Лукі (1,26-38) і звеставанні анёлам Юзафу аб нараджэнні Езуса ў Евангеллі ад Мацвея (1,18-25). Паводле Лукі, Юзаф называецца бацькам як мінімум чатыры разы (2,33.48; 2,23; 4,22). Аднак у кожнай сцэне ён паказаны як цалкам аддады Богу чалавек. Характэрна, што ў кульмінацыйны момант апавядання, г.зн. пры знаходжанні дванаццацігадовага Езуса ў святыні, бацькоўства Юзафа адыходзіць на другі план, бо адзіным і сапраўдным бацькам Езуса з'яўляецца Бог (2,49). Юзаф застаецца ў цені Божага айцоўства, паслухмяна выконваючы волю Айца.

Падобная высnова вынікае з чытання Евангелля паводле Мацвея пра дзяцінства Езуса. Юзаф у ім ніколі не называецца бацькам. Цікава, што вешчуны з Усходу не знаходзяць Езуса, Яго Маці і Юзафа, а толькі Езуса і Марыю: "Дзіця з маці" (2,11). Юзаф застаўся ў цені. Такім чынам, вельмі свядома падкрэсліваецца, што ён не быў біялагічным бацькам Езуса. На працягу ўсяго апавядання Юзаф атрымлівае загады, звязаныя з "дзіцяці і яго маці" (2,13.14.20.21), але ніколі не гучаць яны адносна "твайго дзіцяці", "твайго сына" і нават "вашага сына". Напрыклад, Юзаф бярэ ў Егіпет не "сына свайго і маці яго, жонку сваю", але "дзіця і маці" (2,14). Роля Юзафа ў Евангеллі паводле Мацвея – гэта сапраўдны custos (лац. апякун, абаронца) Езуса і Марыі. Езус заўсёды асацыюецца са сваёй маці Марыяй, але ніколі з Юзафам. Таму роля Юзафа ў апавяданні Мацвея абмяжоўваецца законным бацькоўствам, уключэннем Езуса ў род Давіда, што таксама рэалізуецца ў штодзённым клопаце пра Езуса і Яго Маці.

Увогуле адзіныя тэксты, якія гавораць пра Юзафа, датычаць дзяцінства Езуса. Два выключэнні Лукі (3,23; 4,22) прынцыпова не змяняюць нашую выснову. Гэта можа азначаць раннюю смерць Юзафа, дзесьці паміж візітам 12-гадовага Езуса ў святыню ў Ерузалеме і Яго хростам у Ярдане – пачаткам Яго публічнага служэння.

Марк, які нічога не гаворыць пра жыццё Езуса да пачатку Яго публічнай дзейнасці, зусім не згадвае Юзафа. Дадзены факт можа пацвярджаць гіпотэзу аб ранняй смерці Юзафа. Гэтая традыцыя прысутнічае ў апокрыфах Новага Запавету. Згодна з Протаевангеллем Якуба 9,2, Юзаф быў ужо ў сталым узросце, калі ажаніўся з Марыяй. У святле гісторыі Юзафа-цесляра ён пражыў 111 гадоў, ажаніўся ва ўзросце 40 гадоў і пражыў у шлюбе яшчэ 49 гадоў, нарадзіўшы шасцярых дзяцей. Калі памерла яго першая жонка (а Юзафу ўжо 90!), ён ажаніўся з Марыяй за два гады да нараджэння Езуса. Ён памёр, калі Езусу было больш за 20 гадоў. Гэта паводле апокрыфаў.

**Дадаючы гады Юзафу, апокрыфы імкнуліся абараніць некранутасць і дзявоцтва Марыі, "падрываючы" не толькі здольнасць Юзафа захоўваць цноту, але і здаровы сэнс. Чаму?**

Пажылы ўзрост Юзафа не дазволіў бы яму выканаць заданні, якія Бог даручыў яму, і ніхто не паверыў бы Марыі, што Яна зачала сына ад такога саюзу. Яе, напэўна, палічылі б па меншай меры нецнатлівай, а Езус, будучы незаконнанароджаным, не мог бы быць прызнаным Месіяй. Апокрыфы, як бачым, кіраваліся пераважна сэрцам ("добрым сэнсам"), а не логікай. Дык які ж быў насамрэч узрост Юзафа, калі ён ажаніўся з Марыяй? Адзінае, што можам сказаць, паводле тагачаснага звычаю мужчыны жаніўся ва ўзросце ад васямнаццаці да дваццаці чатырох гадоў. Аднак і выключэнні з гэтага правіла таксама здараліся.

**Што кажуць апокрыфы пра вяселле Юзафа і Марыі?**

Як жа адбывалася абранне Юзафа мужам Марыі? Першая падзея, звязаная са св. Юзафам і апісаная ў Евангеллях (акрамя ўзгадвання яго імя ў радаводах, пар. Мц 1,16 і Лк 3,23), – гэта яго шлюб з Марыяй, коратка апісаны ў Мц 1,18: "Пасля заручынаў яго маці, Марыі, з Юзафам, перш чым яны пачалі жыць разам, яна была знойдзена цяжарнай ад Духа Святога".

Евангелле нічога не кажа пра тое, як адбылося вяселле, у адрозненне ад апокрыфаў, якія шмат увагі надаюць выбару Юзафа ў якасці мужа Марыі, пачынаючы з аднаго з самых старажытных апокрыфаў (і найбольш марыялагічных), якім з'яўляецца Протаевангелле Якуба. Там чытаем, што пасля дасягнення дванаццаці гадоў, гэта значыць узросту, калі Марыя павінна была пакінуць Ерузалемскую святыню з-за небяспекі апаганьвання святыні менструацыяй, у храме адбылася нарада святароў аб яе далейшым лёсе. Падчас малітвы каля алтара Пана першасвятар Захарыя атрымаў загад ад анёла паклікаць у святыню ўдаўцоў з усёй Юдэі. Кожны з іх таксама павінен быў прынесці посах, і Марыя павінна была стаць жонкай таго, каму Бог пакажа знак.

**У тагачасным Ізраэлі не існавала інстытуту дзявоцтва, не было кангрэгацый дзеваў, а сам ідэал прысвячэння дзявоцтва Богу не шанаваўся і не практыкаваўся.**

Такім чынам, калі ўдаўцы прыйшлі ў храм, першасвятар узяў іх посахі і ўвайшоў з імі ў святыню. Пасля завяршэння малітвы ён аддаў кожнаму яго посах, але ніводнаму з іх не спадарожнічаў боскі знак. Калі Юзаф узяў апошнім свой посах, з яго вылецеў голуб і сеў Юзафу на галаву. Першасвятар убачыў у гэтым выраз Божай волі і заахвоціў Юзафа "ўзяць дзеву Пана і захаваць яе для Яго". Юзаф адмовіўся, патлумачыўшы, што ён стары і мае сыноў, а Марыя маладая. Ён баяўся стаць пасмешышчам для людзей. Першасвятар перасцерагаў яго ад дзеяння супраць Божай волі, нагадваючы пра трагічны лёс тых, хто гэта рабіў. Падахвочаны страхам, ён узяў Марыю пад сваю апеку.

У храналагічна пазнейшай "Гісторыі Юзафа-цесляра" ён быў адным з дванаццаці мужчын, абраных з калена Юды, і менавіта яму было "выбрана" стаць мужам Марыі.



У армянскім "Евангеллі дзяцінства" (VII стагоддзе) Марыі было пятнаццаць гадоў, калі ёй шукалі мужа, а бацькі яе ўжо памерлі. Анёл загадаў Захарыі паклікаць Марыю і адзінаццаць іншых дзяўчат з храма, і ўсіх нежанатых мужчын горада. Кожная з іх павінна была прынесці таблічку, на якой Захарыя напісаў імя мужчыны, і занесці яе ў храм. Пасля малітвы першасвятара кожная з дзеваў павінна была выйсці замуж за чалавека, якога прызначыў ёй Бог, "напісаўшы" (рукою святара) імя дзяўчыны на таблічцы мужчыны. Калі першасвятар падаваў таблічку Юзафу, на ёй было напісана імя Марыя, а з самой таблічкі вылецеў голуб і сеў на галаву Юзафу. Юзаф адмовіўся спачатку ўзяць Марыю, спасылаючыся на вялікую сям'ю і сталы ўзрост. Ён таксама баяўся насмешак: на яго думку, Марыя была яшчэ дзіцём. Першасвятар спрабаваў пераканаць яго, што Марыя – сірата і патрабуе абароны, а выбар мужа для яе законны. Юзаф не паддаваўся. Першасвятар запэўніў яго, што ніхто не будзе прымушаць яго прыняць Марыю, але ён здзіўлены, што Юзаф прыйшоў у храм з таблічкай. Юзаф патлумачыў гэта невуцтвам, якое вынікае са старасці. Нарэшце, першасвятар нагадаў яму пра пакаранне, якое спасцігла тых, хто не паслухаўся Бога. Пачуўшы гэтыя словы, Юзаф упаў перад святаром і людзьмі, затым узяў Марыю і павёў да сябе ў Назарэт.

У Евангеллі ад ЛжэМацвея прыкладна таго ж часу (VI ст.) Марыя застаецца ў храме да чатырнаццаці гадоў, і пытанне аб яе выхадзе з храма ўздымаецца фарысеямі. Калі ні з аднаго з посахаў не злятае голуб, анёл паказвае першасвятару, што ён прапусціў у скініі маленькі посах, які належаў Юзафу (сам ён, будучы старым чалавекам, не шукаў свой посах, каб не прыйшлося клапаціцца пра Марыю). Калі Юзаф нарэшце ўзяў свой посах, з яго вылецеў голуб. Ён доўга кружыўся пад дахам храма і паляцеў у нябёсы. Людзі віншавалі Юзафа з выбарам на мужа, але ён адмовіўся, патлумачыўшы, што Марыя можа быць яго ўнучкай. Аднак пад уплывам папярэджанняў першасвятара ён вырашыў прыняць яе і пазней выдаць замуж за аднаго са сваіх сыноў. Тады першасвятар нагадаў яму, што ніхто іншы не можа ажаніцца з ёй.

Як няцяжка заўважыць, амаль ва ўсіх апокрыфах, што апавядаюць пра выбар Юзафа ў мужы Марыі, фігуруе тэма посаха (у Армянскім Евангеллі дзяцінства ён заменены таблічкай). З посаха вылятае або прызямляецца на яго голуб, пацвярджаючы выбар Юзафа. Такім чынам, тут мы маем выразную спасылку як на хрост Хрыста ў Ярдане (пар. Мк 1,9-10), так і на посах Аарона (пар. Ліч 17,16-26) і на прароцтва Ісаі (пар. Іс 11,1-2). Іншая тэма, якая з'яўляецца тут, – супрацьпастаўленне Юзафа жаніцьбе з Марыяй і пастаянны акцэнт на яго сталым узросце, які павінен быў пацвердзіць некранутасць Марыі пасля родаў, адначасова пазбаўляючы яго гераічнага практыкавання цноты чысціні.

Мы молімся "Юзэфе найчысцейшы". Ці ж чысціня св. Юзафа – гэта "заслуга" яго старасці, ці ўсё ж такі добраахвотная ахвяра Богу дзеля справы збаўлення свету Панам нашым Езусам Хрыстом?

*Кс. Валерый Марціноўскі*




Дарагі дружа! Вітаем цябе у "Пазнавайцы". Трывае Вялікі пост – асаблівы час разважання над цярпеннямі Езуса Хрыста. Няхай нашыя заданні дапамогуць табе перажыць гэты час глыбока і карысна.

## 1 ЗАДАННЕ

Злучы прамавугольнікі аднолькавага колеру і даведайся, якія ўчынкі называюць учынкамі міласэрнасці для цела бліжняга

| | |
|---|---|
| НАКАРМІЦЬ | САСМАГЛЫХ. |
| ПРЫНЯЦЬ У ДОМ | НАГІХ. |
| АДВЕДАЦЬ | ВЯЗНЯЎ. |
| НАПАІЦЬ | ПАМЕРЛЫХ. |
| АДЗЕЦЬ | ГАЛОДНЫХ. |
| ПАХАВАЦЬ | ПАДАРОЖНЫХ. |
| СУЦЯШАЦЬ | ХВОРЫХ. |

## 2 ЗАДАННЕ

Успомні назвы стацый Крыжовага шляху. Дапішы прапушчаныя словы. Падумай, аб чым ты б хацеў памаліцца падчас гэтага набажэнства.

| | | |
|---|---|---|
| Стацыя 1: Езус ______ на смерць | Стацыя 6: ______ выцірае твар Езуса | Стацыя 11: Езуса ______ да крыжа |
| Стацыя 2: Езус бярэ ______ | Стацыя 7: Езус падае ______ раз | Стацыя 12: Езус ______ на крыжы |
| Стацыя 3: Езус ______ першы раз | Стацыя 8: Езус ______ Ерузалемскіх жанчын | Стацыя 13: Езуса здымаюць ______ |
| Стацыя 4: Езус сустракае сваю ______ | Стацыя 9: Езус ______ трэці раз | Стацыя 14: Езуса кладуць ______ |
| Стацыя 5: Сымон Кірынеец дапамагае Езусу ______ крыж | Стацыя 10: З Езуса ______ адзенне | |

## 3 ЗАДАННЕ

Прачытай разам з бацькамі Евангелле ад Лукі 1, 26-38. Адкажы на пытанні крыжаванкі і даведайся, якую ўрачыстасць адзначае Каталіцкі Касцёл 25 сакавіка.



1. Як звалі нарачонага Марыі?
2. Устаў прапушчанае слова.
*Анёл сказаў Марыі " … , поўная ласкі".*
3. Якое імя анёл загадаў даць дзіцю?
4. Устаў прапушчанае слова.
*І сказаў Ёй анёл: "Не бойся, Марыя, бо знайшла Ты …. ў Пана".*
5. Устаў прапушчанае слова.
*Дасць Яму Пан Бог … Давіда, бацькі Ягонага*
6. Устаў прапушчанае слова.
*Марыя сказала анёлу: Як …. гэта, калі я мужа не ведаю?*
7. Устаў прапушчанае слова.
*Дух … сыдзе на Цябе, і моц Найвышэйшага ахіне Цябе.*
8. Як звалі анёла, пасланага да Марыі?
9. У якім горадзе жыла Марыя?
10 Устаў прапушчанае слова.
*Для Бога няма нічога ….*
11. Як звалі сваячку Марыі?



## 4 ЗАДАННЕ

Размалюй ілюстрацыю. Падумай, чаму вучыць нас сцэна Звеставання?



Мастачка: **Вольга Будкіна;** ідэя: **Вікторыя Філіпенка**

# Дапамога бедным у Паставах



**Пачатак сакавіка... Вясновае сонейка і блакітнае неба змяняюцца зімовымі сумётамі і завірухай. Дзіўная, няўтульная пара, калі на дварэ – пранізлівы вецер і холад, хочацца сядзець дома з кніжкай і кубкам кавы, паглядаючы на непагадзь праз акно і чакаючы сапраўднай вясны.**

**Вікторыя Філіпенка,** *тэкст і фота*

На думку прыходзіць, што ў такое надвор'е найбольш халодна і няўтульна людзям, якія па розных жыццёвых абставінах не маюць ні дому, ні даху над галавой. Разважаю над тым, што бяздомным сёння не трэба шмат, апрача звычайнай цёплай ежы і элементарнай чалавечай увагі, разумею, што гэта ўжо вялікая дапамога ў цяжкай сітуацыі.

Такую дапамогу бяздомным аказваюць у Пастаўскай парафіі святога Антонія Падуанскага. Накіроўваюся туды, каб спытаць, як арганізаваная дабрачынная дзейнасць.

На парозе кляштара мяне сустракае сястра Канстанцыя Юралайт з кангрэгацыі сясцёр Маці Божай Міласэрнасці. На яе твары ветлівая ўсмешка, а ў руках – вялікі рондаль з супам. Вітаемся і накіроўваемся ў парафіяльны дом, куды штодня прыходзяць бедныя людзі, каб падсілкавацца гарачым абедам.

Ініцыятыва па харчаванні бедных распачалася ў 2012 годзе сіламі тагачаснага пробашча айца Анджэя Возьняка SCJ. Сёння яе працягваюць айцы-сэрцане, што служаць у парафіі, на чале з пробашчам айцом Вадзімам Прасяным.

Фінансава справу падтрымліваюць і парафіяне. Раз на год, увосень, арганізоўваецца збор прадуктаў, дзе кожны можа падзяліцца тым, што вырасла на агародах і палетках. Таксама парафіяне прыносяць абутак і адзенне, якія потым раздаюцца тым, хто мае патрэбу. У сваю чаргу, манахіні гатуюць абеды і выдаюць іх.

> **Дзякуючы такой дапамозе людзі ў цяжкім сацыяльным становішчы маюць магчымасць з'есці хаця б адну гарачую страву за дзень.**

Кожны чалавек, што прыходзіць падсілкавацца ў парафіяльны дом, дайшоў да беднасці сваім шляхам. Часам прычынай нядолі становіцца алкагольная залежнасць, часам – трагічная жыццёвая гісторыя.

Заўважаю, што падчас раздачы ежы сярод прысутных няма ні сварак, ні спрэчак, ні брыдкіх словаў. Кожны культурна казаў "добры дзень" і "дзякуй". Думаю, што ў гэтых простых словах гучыць і падзяка Пану Богу, Які прыходзіць праз людзей. Часам здаецца, што разам з гарачым супам людзі атрымліваюць нешта большае: чалавечую ўвагу, клопат і адкрытае сэрца.

Трэба сказаць, што душпастырская дзейнасць айцоў-сэрцанаў і сясцёр з кангрэгацыі Маці Божай Міласэрнасці вельмі шырокая: гэта катэхезы для дзяцей і моладзі, святліца, дзе малодшыя могуць застацца пасля школьных заняткаў, розныя забаўляльныя і спартыўныя мерапрыемствы, група ананімных алкаголікаў.

Таксама сястра Канстанцыя ZMBM расказала пра супольнасць свецкіх "Фаустынум".

Яе дзейнасць у свеце распачалася ў 1996 годзе. У дзённіку святой сястры Фаустыны Кавальскай было расчытана як Божая Воля стварэнне кангрэгацыі, што б уключала ў сябе святароў, манахінь і свецкіх людзей.

Генеральны дом супольнасці знаходзіцца ў Кракаве. Да яе належаць людзі з больш чым 80 краін свету, якія прагнуць жыць духам Міласэрнасці Божай і яе абвяшчаць праз малітву, учынкі і словы. А малітва, учынкі і словы дапаўняюцца духоўнай фармацыяй.

Супольнасць свецкіх "Фаустынум" у Паставах паўстала 6 сакавіка 2008 года. Тады адбылася першая сустрэча. А ў 2013 годзе было першае спатканне супольнасці ў мінскай парафіі святых Сымона і Алены.

Сустрэчы адбываюцца адзін раз на месяц. Удзельнікі чытаюць Святое Пісанне, Дзённік святой Фаўстыны, размаўляюць пра духоўнае жыццё ў прызме Божай Міласэрнасці.

Менавіта валанцёры з супольнасці "Фаустынум" дапамагаюць у раздачы ежы бедным, у святліцы і розных іншых парафіяльных ініцыятывах.

У Святым Пісанні чытаем: "Што зрабілі вы гэта аднаму з братоў Маіх меншых – Мне зрабілі" (Мц 25, 40). Няхай жа Пан Бог шчодра ўзнагародзіць кожнага чалавека, які адкрывае сэрцы на патрэбы бліжніх!





# Каляндар на красакавік

**2** красавіка – Пальмовая нядзеля або Нядзеля Мукі Пана.

**6** красавіка – Вялікі Чацвер. Пачатак святога пасхальнага Трыдуума

**7** красавіка – Вялікая пятніца Мукі Пана.

**8** красавіка – Вялікая субота.

**9** красавіка – Велікодная нядзеля альбо Змертвыхпаўстання Пана.

**16** красавіка – Нядзеля Божай Міласэрнасці.

**25** красавіка – Свята Св. Марка, евангеліста.

**28** красавіка – успамін Св. Пятра Шанэля, святара і мучаніка / успамін Св. Людвіка Марыі Грыньён дэ Манфора, святара.

**29** красавіка – Свята Св. Кацярыны Сіенскай, панны і доктара Касцёла, апякункі Еўропы.

## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дашліце ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвявання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага апаратара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

*Рэдакцыя сайта Catholicnews.by*

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – А; 2 – В; 3 – Б; 4 – А; 5 – Б; 6 – А; 7 – Б; 8 – А; 9 – Б; 10 – В

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1369

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 20.03.2023 г. у 8.00

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь